

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 37 (624) 8 КАСТРЫЧНІКА 2003 г.

## Дарагія сябры "Нашага слова"!

Сёння мы паведамляем вам вынікі падпісной кампаніі на чацвёрты квартал 2003 года. Мы можам з задавальненнем канстатаваць, што падпіска вырасла ва ўсіх абласцях. Паводле ліпеня колькасць падпісчыкаў павялічылася на 146 чалавек. Гэта ў асноўным адбылося дзякуючы актыўнай працы, як асобных сяброў ТБМ, так і цэлых арганізацый. Рэдакцыя шчыра дзякуе нашым сябрам, якія падтрымалі "Наша слова", наша з вамі слова. Мы пастараемся, каб вы не расчараваліся ў газеце і заўсёды змаглі знайсці ў ёй нешта цікавае.

| Берасцейская вобласць: | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| Баранавічы р.в | 21 | 18 |
| Бяроза р.в. | 7 | 7 |
| Белаазёрск р.в | - | 2 |
| Берасце гор. | 24 | 21 |
| Ганцавічы р.в. | - | 2 |
| Драгічын р.в. | 1 | 1 |
| Жабінка р.в. | - | 1 |
| Іванава р.в. | - | 1 |
| Івацэвічы р.в | 4 | 4 |
| Камянец р.в. | 2 | 1 |
| Кобрын гор. | 1 | 1 |
| Лунінец гор. | 1 | 2 |
| Ляхавічы р.в. | - | 1 |
| Маларыта р.в. | 1 | 1 |
| Пінск гор. | 13 | 14 |
| Пружаны р.в. | 4 | 5 |
| Столін р.в. | 2 | 2 |
| **Усяго:** | **81** | **84** |

| Віцебская вобласць: | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| Бешанковічы р.в. | 1 | 1 |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 21 | 18 |
| Віцебск РВПС | 2 | 2 |
| Верхнедзвінск р.в. | 8 | 7 |
| Глыбокае р.в. | 4 | 7 |
| Гарадок р.в. | 1 | - |
| Докшыцы р.в. | 1 | 2 |
| Дуброўня р.в. | 1 | - |
| Ліёзна р.в. | - | 2 |
| Лепель р.в. | - | 3 |
| Міёры р.в. | 4 | 8 |
| Наваполацк гор. | 30 | 31 |
| Ворша гор. | 4 | 4 |
| Полацк гор. | 31 | 40 |
| Паставы р.в. | 3 | 2 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | - | 2 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 2 | 3 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 1 | 3 |
| Шуміліна р.в. | 2 | 2 |
| **Усяго:** | **120** | **141** |

| Менская вобласць: | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| Беразіно р.в. | 3 | 4 |
| Барысаў гор. | 4 | 3 |
| Вілейка гор. | 3 | 6 |
| Валожын гор. | 4 | 3 |
| Дзяржынск р.в. | 1 | 1 |
| Жодзіна гор. | 5 | 6 |
| Клецк р.в. | - | 3 |
| Крупкі р.в. | 1 | 1 |
| Капыль р.в. | 1 | 1 |
| Лагойск р.в. | 2 | 4 |
| Любань р.в. | 3 | 3 |
| Менск гор. | 256 | 273 |
| Менск РВПС | 9 | 8 |
| Маладэчна гор. | 16 | 17 |
| Мядзель р.в. | 3 | 2 |
| Пухавічы РВПС | 8 | 9 |
| Нясвіж р.в. | 1 | 2 |
| Смалявічы р.в. | - | 1 |
| Слуцк гор. | 8 | 8 |
| Салігорск гор. | 3 | 4 |
| Ст. Дарогі р.в. | 1 | 1 |
| Стоўбцы р.в. | 9 | 13 |
| Узда р.в. | 1 | 2 |
| Чэрвень р.в. | 4 | 6 |
| **Усяго:** | **346** | **381** |

| Гомельская вобласць: | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| Буда-Кашалёва | 1 | 2 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | 3 | 1 |
| Гомель гор. | 40 | 52 |
| Гомель РВПС | - | 3 |
| Добруш р.в. | - | 1 |
| Ельск р.в. | - | 2 |
| Жыткавічы р.в. | 26 | 27 |
| Жлобін гор. | 4 | 5 |
| Калінкавічы гор. | 2 | 2 |
| Карма р.в. | 1 | - |
| Лельчыцы р.в. | - | 2 |
| Лоеў р.в. | - | 1 |
| Мазыр гор. | 8 | 5 |
| Акцябарскі р.в. | - | 1 |
| Нароўля р.в. | 1 | - |
| Петрыкаў р.в. | - | 2 |
| Рэчыца гор. | 1 | 1 |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | 5 | 6 |
| Хойнікі р.в. | - | 4 |
| Чачэрск р.в. | 2 | 1 |
| **Усяго:** | **94** | **120** |

| Гарадзенская вобласць: | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| Бераставіца | - | 2 |
| Ваўкавыск гор. | 8 | 9 |
| Воранава р.в. | 2 | 2 |
| Горадня гор. | 74 | 102 |
| Горадня РВПС | 28 | 32 |
| Дзятлава р.в. | 3 | 6 |
| Зэльва р.в. | 2 | 4 |
| Іўе р.в. | 1 | 1 |
| Карэлічы р.в. | 3 | 3 |
| Масты р.в. | 7 | 10 |
| Навагрудак гор. | 5 | 7 |
| Астравец р.в. | 2 | 1 |
| Ашмяны р.в. | 3 | 3 |
| Смаргонь гор. | 7 | 7 |
| Слонім гор. | 3 | 5 |
| Свіслач р.в. | 3 | 5 |
| Шчучын р.в. | 1 | 1 |
| Ліда | 16 | 14 |
| **Усяго:** | **168** | **214** |

| Магілёўская вобласць: | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| Бабруйск гор. | 8 | 10 |
| Бабруйск РВПС | - | - |
| Бялынічы р.в | 1 | - |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | - | 1 |
| Горкі гор. | 4 | 6 |
| Дрыбін р.в | 1 | 1 |
| Кіраўск р.в. | - | 1 |
| Клічаў р.в. | - | 1 |
| Краснаполле р.в. | - | 1 |
| Крычаў р.в. | - | 2 |
| Клімавічы р.в. | 3 | 2 |
| Касцюковічы р.в. | 2 | 2 |
| Круглае р.в. | 2 | 2 |
| Мсціслаў р.в. | - | 2 |
| Магілёў гор. | 19 | 18 |
| Магілёў РВПС | - | 2 |
| Асіповічы гор. | 5 | 5 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 1 |
| Хоцімск р.в. | - | 2 |
| Чэрыкаў р.в. | 1 | 3 |
| Чавусы р.в. | - | 1 |
| Шклоў р.в. | 3 | 2 |
| **Усяго:** | **51** | **66** |
| **Усяго па краіне:** | **860** | **1006** |

# 12 кастрычніка 2003 года ў Менску пройдзе VIII з'езд ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"

Праект

## Парадак дня і рэгламент працы VIII з'езду ТБМ

$9^{00}-10^{00}$ - рэгістрацыя дэлегатаў, прадстаўнікоў і гасцей з'езду.
$10^{00}-10^{05}$ - адкрыццё з'езду.
$10^{05}-10^{10}$ - ушанаванне руплівуцаў беларушчыны.
$10^{10}-10^{25}$ - выбары мандатнай, падліковай, рэдакцыйнай камісіяў і сакратарыяту з'езду.
$10^{25}-10^{35}$ - вітальнае слова гасцей з'езду.
$10^{35}-10^{45}$ - даклад старшыні ТБМ Алега Трусава_*"Асноўныя вынікі дзейнасці ТБМ за справаздачны перыяд (травень 2001 - кастрычнік 2003 гг.)*.
$10^{45}-10^{55}$ - садаклад першага намесніка старшыні ТБМ Людмілы Дзіцевіч *"Культурна-асветніцкая дзейнасць ТБМ"*.
$10^{55}-11^{05}$ - садаклад намесніка старшыні ТБМ Алены Анісім *"Дзейнасць Менскай гарадской арганізацыі і газеты "Новы Час"*.
$11^{05}-11^{15}$ - садаклад намесніка старшыні ТБМ Сяргея Кручкова *"Беларуская мова ў інфармацыйнай прасторы"*.
$11^{15}-11^{20}$ - справаздачны даклад старшыні Рэвізійнай камісіі ТБМ.
$11^{20}-11^{30}$ - справаздачны даклад галоўнага рэдактара "Нашага слова" Станіслава Судніка.
$11^{30}-11^{35}$ - даклад старшыні мандатнай камісіі.
$11^{35}-12^{35}$ - (3-5 хвілін) - спрэчкі па дакладах.
$12^{35}-13^{00}$ - **выбары кіраўніцтва ТБМ** (старшыня, намеснікі, Рада ТБМ, Рэвізійная камісія ТБМ, галоўны рэдактар газеты "Наша слова").
$13^{00}-14^{00}$ - перапынак на абед.
*$13^{00}-13^{30}$ - **Берасцейская абласная канферэнцыя ТБМ.***
$14^{00}-14^{10}$ - вітальнае слова гасцей з'езду.
$14^{10}-16^{00}$ - абмеркаванне і прыняцц дакументаў з'езду.
$16^{00}$ - **закрыццё з'езду.**
$16^{10}-16^{30}$ - першае паседжанне новай Рады ТБМ (абранне новага Сакратарыяту ТБМ. Зацверджанне складу рэдкалегіі газеты "Наша слова".)

## Беларускія ўлады высока ацанілі дзейнасць ТБМ

У апошні час ускладнілася пытанне з месцам правядзення з'езду ТБМ.

На наш пісьмовы зварот у кіраўніцтва справамі прэзідэнта РБ ДУ "Галоўнае гаспадарчае ўпраўленне" аб правядзенні з'езду ў памяшканні Дома літаратара доўга не было адказу, а потым нам прапанавалі заплаціць арэндную плату 5 еўра за м.кв., што складае суму прыкладна 2000 еўра.

Такім чынам, мы ведаем кошт нашай працы і вельмі ўдзячныя ўладам за такую высокую адзнаку.

Таму з'езд адбудзецца 12 кастрычніка ў іншым памяшканні. Інфармацыю аб дакладным месцы збору дэлегаты могуць атрымаць 9 і 10 кастрычніка ў Сакратарыяце ТБМ па тэл. (8-017) 284-85-11 (з 9.00 да 20.00). Рэгістрацыя дэлегатаў, прадстаўнікоў і гасцей з'езду пачынаецца з 9.00. Пачатак з'езду — а 10-й гадзіне.

***Старшыня ТБМ Алег Трусаў.***

*(Іншыя матэрыялы да з'езду гл. на ст. 3.)*

## 215 гадоў з дня нараджэння Івана Насовіча

Іван Іванавіч Насовіч нарадзіўся ў с. Гразівец Чавускага р-на Магілёўскай вобл. Пасля Магілёўскай гімназіі і духоўнай семінарыі быў інспектарам і выкладчыкам рускай славеснасці ў Аршанскай павятовай духоўнай навучальні. Працаваў у Мсціслаўскай, Маладзечанскай, Дзвінскай, Свянцянскай навучальнях. Пры пераездах знаёміўся з гаворкай жыхароў, запісваў словы, сказы, прыказкі, прымаўкі, песні, павер'і і інш. Па даручэнні Рускага геаграфічнага таварыства ў 1853-1857 гг. укладаў гістарычны слоўнік беларускай мовы на аснове 5-томнага збору "Актаў, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі" (каля 13000 слоў). За слоўнік Акадэмія навук прысудзіла Уvараўскую прэмію, але слоўнік застаўся не надрукаваным. Працуючы над гістарычным слоўнікам, займаўся ўкладаннем слоўніка жывой народнай мовы, над якім працаваў 16 гадоў. Наладзіў экспедыцыі ў Менскую, Гарадзенскую, Магілёўскую губерні. Дадаткова вывучаў мясцовы лексічны матэрыял. У 1863 г. завяршыў работу. Акадэмія навук у 1870 г. выдала "Слоўнік беларускай мовы" (больш за 30000 слоў, факсімільна перавыдадзены ў 1983 г). Аўтар атрымаў Дзямідаўскую прэмію. Гэта першы навуковы даведнік па лексіцы жывой беларускай мовы сярэдзіны XIX ст. Заўважым, што па гэтым слоўніку вывучаў беларускую мову Максім Багдановіч. "Зборнік беларускіх прыказак" (каля 3500 твораў) І. Насовіча выйшаў у 1874 г. Яго мемуары "Успаміны майго жыцця" апублікаваны ў часопісе "Нёман" (1994). І. І. Насовіч – прыкметная фігура ў беларускай лексікаграфіі і фальклорыстыцы XIX ст.



*Я. Лексікограф.*

# 12 кастрычніка 2003 года ў Менску пройдзе VIII з'езд ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"

## Спіс асоб, рэкамендаваных у склад Рэспубліканскай Рады ТБМ

| № | Прозвішча, імя | Якая арганізацыя рэкамендавала |
|---|---|---|
| 1. | Аксак Валянціна | Менская гарадская |
| 2. | Анісім Алена | Менская гарадская |
| 3. | Арлоў Уладзімір | Менская гарадская |
| 4. | Багданкевіч Святлана | Менская гарадская |
| 5. | Баршчэўскі Лявон | Менская гарадская |
| 6. | Бураўкін Генадзь | Менская гарадская |
| 7. | Гарэцкі Радзім | Менская гарадская |
| 8. | Гілевіч Ніл | Менская гарадская |
| 9. | Грыцкевіч Анатоль | Менская гарадская |
| 10. | Гуркоў Сяргей | Менская гарадская |
| 11. | Дзіцэвіч Людміла | Менская гарадская |
| 12. | Завальнюк Уладзіслаў | Менская гарадская |
| 13. | Запрудскі Сяргей | Менская гарадская |
| 14. | Зуёнак Васіль | Менская гарадская |
| 15. | Іпатава Вольга | Менская гарадская |
| 16. | Колас Уладзімір | Менская гарадская |
| 17. | Краўчанка Пётр | Менская гарадская |
| 18. | Кручкоў Сяргей | Менская гарадская |
| 19. | Кузьміч Вольга | Менская гарадская |
| 20. | Лыч Леанід | Менская гарадская |
| 21. | Мазынскі Валер | Менская гарадская |
| 22. | Мальдзіс Адам | Менская гарадская |
| 23. | Марачкіна Ірына | Менская гарадская |
| 24. | Палсцюк Валеры | Менская гарадская |
| 25. | Санько Зміцер | Менская гарадская |
| 26. | Содаль Уладзімір | Менская гарадская |
| 27. | Трусаў Алег | Менская гарадская |
| 28. | Цыхун Генадзь | Менская гарадская |
| 29. | Чэчат Алесь | Менская гарадская |
| 30. | Банкевіч Генадзь (Менск) | Менская абласная |
| 31. | Іванова Бярнарда (Менскі раён) | Менская абласная |
| 32. | Лапіцкі Аляксей (Жодзіна) | Менская абласная |
| 33. | Трубач Таццяна (Заслаўе) | Менская абласная |
| 34. | Мацкевіч Васіль (Пінск) | Пінская гарадская |
| 35. | Сырыца Віктар (Баранавічы) | Баранавіцкая гарадская |
| 36. | Бабіч Юры (Віцебск) | Віцебская абласная |
| 37. | Гаравы Леанід (Гарадок) | Віцебская абласная |
| 38. | Гарановіч Віталь (Глыбокае) | Віцебская абласная |
| 39. | Камароўскі Мікалай (Орша) | Віцебская абласная |
| 40. | Навумчык Іосіф (Віцебск) | Віцебская абласная |
| 41. | Ролік Міхаіл (Мёры) | Віцебская абласная |
| 42. | Рымша Алесь (Наваполацк) | Віцебская абласная |
| 43. | Сом Алена (Полацк) | Віцебская абласная |
| 44. | Місцюкевіч Алесь (Горадня) | Гарадзенская абласная |
| 45. | Маркевіч Мікола (Горадня) | Гарадзенская абласная |
| 46. | Пяткевіч Аляксей (Горадня) | Гарадзенская абласная |
| 47. | Суднік Станіслаў (Ліда) | Лідская гарадская |
| 48. | Трафімчык Таццяна (Слонім) | Гарадзенская абласная |
| 49. | Бароўскі Анатоль (Гомель) | Гомельская абласная |
| 50. | Піскун Людміла (Мазыр) | Мазырская гарадская |
| 51. | Барэль Таццяна (Асіповічы) | Асіповіцкая раённая |
| 52. | Булавацкі Міхась (Магілёў) | Магілёўская гарадская |
| 53. | Украінка Сяргей (Магілёў) | Магілёўская гарадская |

## Спіс асоб, рэкамендаваных у склад Рэвізійнай камісіі ТБМ

| № | Прозвішча, імя | Якая арганізацыя рэкамендавала |
|---|---|---|
| 1. | Бордак Уладзімір | Менская гарадская |
| 2. | Качаноўская Наталля | Менская гарадская |
| 3. | Галай Арказь | Менская гарадская |
| 4. | Лавіцкі Мікола | Менская гарадская |
| 5. | Ялугін Эрнест | Менская гарадская |

*ПРАЕКТ*

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## з'езду ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны

### Пра сітуацыю вакол Нацыянальнага ліцэя імя Якуба Коласа

З'езд ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны выказвае сваю глыбокую заклапочанасць з нагоды ліквідацыі Саветам Міністраў Рэспубллікі Беларусь Установы адукацыі "Нацыяналны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа" – адзінага ў свеце беларускамаўнага ліцэя. Усё гэта адбываецца на фоне далейшага скарачэння колькасці бьеларускамоўных масавых базавых і сярэдніх школ у Рэспубліцы Беларусь на фоне адсутнасці прагрэсу ў вырашэнні пытання аб адкрыцці Нацыянальнага універсітэта. Мы заяўляем пра сваю рашучую нязгоду з прычыны гвалтоўных дзеянняў уладаў у дачыненні да педагагічнага калектыву, выкінутага з дзяржаўнаай сістэмы адукацыі, і да навучэнцаў ліцэя, якія хочуць надалей вучыцца ў сваіх настаўнікаў. Выкарыстанне АМАПу і іншых сілавых структур, запалохванне навучэнцаў, іх бацькоў і педагогаў – не метад вырашэння педагагічных праблем і пытання арганізацыі беларускамоўнай адукацыі.

Мы выказваем сваю падтрымку ўсім, хто пасапраўднаму клапоціцца пра далейшы лёс навучэнцаў ліквідаванага лліцэя і працягвае самаахвярную працу ў цяжкіх умовах. Выказваем упэўненасць, што ў выпадку, калі беларуская і міжнародная грамадскасць не пакінуць па-за ўвагай Нацыянальны ліцэй, ён абавязкова зробіцца падмуркам будучага Нацыянальнага гуманітарнага універсітэта.

# ПАСТАНОВА

## Віцебскай абласной рады Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" ад 13 верасня 2003 года

### Аб плане дзеянняў абласной арганізацыі Таварыства па ўвекавечванні памяці Васіля Уладзіміравіча Быкава і падрыхтоўцы да 80-годдзя з дня яго нараджэння

1. Сябрам Таварыства правесці шырокую прапаганду твораў В. У. Быкава, разам з бібліятэкамі арганізаваць чытацкія канферэнцыі, кніжныя выставы, творчыя вечарыны, прысвечаныя творчасці, жыццёваму шляху В.У. Быкава.

2. Падтымаць прапанову абласной арганізацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў аб правядзенні кожныя 2-3 гады на базе Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П.М. Машэрава і Полацкага дзяржаўнага універсітэта, абласной бібліятэкі навуковых чытанняў, прысвечаных В.У. Быкаву. Першыя чытанні правесці ў траўні – чэрвені 2004 года.

3. Прасіць раду саюза беларускіх пісьменнікаў падрыхтаваць і выдаць зборнік твораў беларускіх і замежных пісьменнікаў, публіцыстаў, напісаных у сувязі са смерцю В. У. Быкава.

4. Звярнуцца ў праўленне Саюза беларускіх мастакоў, Міністэрства культуры Беларусі аб правядзенні ў ліпені 2004 года на радзіме В. У. Быкава плянэра, прысвечанага яго 80 - годдзю.

5. Прасіць Міністэрства культуры, Віцебскі аблвыканкам прыняць рашэнне аб стварэнні ў г. Віцебску мемарыяльнага музея В.У. Быкава з філіялам на яго радзіме ў в. Бычкі Ушацкага раёна.

6. Звярнуцца ў Віцебскі аблвыканкам з прапановай аб наданні імя Васіля Быкава Кубліцкай СШ Ушацкага раёна, у якой ён вучыўся, а таксама абласной бібліятэцы (ці іншай бібліятэцы ў Віцебску або ва Ўшачах).

7. Прасіць Віцебскі гарвыканкам надаць адной з вуліц горада імя В. Быкава, устанавіць на будынку мастацкай школы па вул. Суворава, дзе вучыўся В. Быкаў, мемарыяльную дошку.

8. Патрымаць прапанову Віцебскай абласной арганізацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў аб будаўніцтве помніка В.У. Быкаву ля будынка абласной бібліятэкі (вул. Леніна).

9. Абласная рада Таварыства звяртаецца да грамадскасці вобласці, да калектываў устаноў культуры, адукацыі, творчых саюзаў, да ўсіх грамадзян абмеркаваць прапановы па падрыхтоўцы да 80-годдзя В. У. Быкава і ўшанаванні яго памяці, выказаць свае меркаванні і накіраваць іх у Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў, Міністэрства культуры, Саюз беларускіх пісьменнікаў, адпаведныя мясцовыя органы ўлады, у рэдакцыі газет, на радыё і тэлебачанне.

10. Прасіць Рэспубліканскую раду ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" надрукаваць у газетах Таварыства гэтае рашэнне і ўнесці адпаведнае прапановы на УШ з'езд Таварыства.

**Старшыня Віцебскай абласной рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" І. Навумчык.**

# Цікавая сустрэча

12 верасня ў сядзібе Таварыства беларускай мовы адбылася важная падзея. На сустрэчу з кіраўніцтвам ТБМ завітаў з Масквы амбасадар Ірландыі спадар Джэймс О'Шэй. Паважанага госця прымалі старшыня ТБМ Алег Трусаў, першы намеснік Людміла Дзіцэвіч, старшыня Рады



ТБМ г. Менска, намеснік старшыні ТБМ Алена Анісім. Адбылася зацікаўленая размова, падчас якой госць пазнаёміўся з дзейнасцю нашага грамадскага аб'яднання, атрымаў у падарунак новыя нумары газет "Новы Час" і "Наша слова", а таксама кнігі і каляндарыкі ТБМ. Сустрэча была арганізавана дзякуючы кіраўніку фонду "Сакавік", унучцы Якуба Коласа Марыі Міцкевіч.

*Наш кар.*

# Таварыства беларускай мовы ў старажытным Полацку

У сераду, 1 кастрычніка, адбылася справаздачна-выбарная канферэнцыя Полацкай гарадской арганізацыі ТБМ. На канферэнцыі прысутнічаў старшыня Віцебскай абласной арганізацыі Іосіф Адамавіч Навумчык. Канферэнцыя заслухала справаздачны даклад старшыні гарадской арганізацыі Тамары Пятроўны Гарэлікавай, абрала новы склад сваёй Рады і вылучыла трох дэлегатаў на VIII з'езд ТБМ.

Пад час канферэнцыі прагучалі цікавыя выступы прадстаўнікоў розных суполак Таварыства. Вольга Шульчанка, навуковы супрацоўнік Музея кнігадрукавання, падрабязна пазнаёміла прысутных з работай музея па прапагандзе беларускай мовы. Найбольшыя водгукі ў залы сустрэлі яе заўвагі пра тое, што адмаўляюцца ад правядзення экскурсій па-беларуску і не заўсёды ўмеюць сябе паводзіць у музеі экскурсанты, што прыязджаюць не адкуль-небудзь з вёсак, а з Менску. Валянціна Крук, намеснік дырэктара Цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Полацка, пазнаёміла сяброў арганізацыі з сумнай статыстыкай: беларускія выданні складаюць толькі 12% агульнага кнігафонду горада, а кнігавыдача іх і таго меншая – толькі 7 %. Па прынятай сістэме, дарэчы, двухмоўныя выданні (да якіх цяпер належыць большасць СМІ і якія найбольш запатрабаваныя ў чытача) улічваюцца ў статыстыцы як рускамоўныя. З 54-ох работнікаў ЦБС толькі тры (!) чалавекі могуць гаварыць з наведнікамі ці выступаць па-беларуску. Пры гэтым работнікі бібліятэкі па закону павінны валодаць беларускай мовай "у межах неабходнага", а вось дзе пралягаюць тыя межы, нікому невядома. Мікола Шарах, прадстаўнік суполкі завода "Шкловалакно", прыгадаў, што пачаўся працэс знішчэння адзінай беларускамоўнай навучальнай установы ў горадзе – Полацкай нацыянальнай гімназіі: адзін з пачатковых класаў цяпер рускамоўны. На галоўным прадпрыемстве горада – "Шкловалакне"— абвешчаны конкурс на гімн прадпрыемства, і адна з умоў – конкурсны твор павінен быць напісаны паруску. Міхась Баўтовіч у сваім выступе заўважыў, што ТБМ трэба пашыраць зону дзейнасці, шырэй весці культурніцкую працу, пакольку на дадзены момант фактычна няма краязнаўчых ці культурніцкіх арганізацый, што вялі б такую работу.

Было зроблена шмат канкрэтных заўваг па паляпшэнні дзейнасці арганізацыі. Найлепшыя прапановы дэлегаты (імі сталі Т.П.Гарэлікава, В.Крук і Л.Сом) павінны будуць агучыць на з'ездзе. А напрыканцы сустрэчы Іосіф Адамавіч На-вумчык выказаў шчырую сардэчную падзяку Тамары Пятроўне Гарэлікавай, якая аддала ТБМ пятнаццаць гадоў свайго жыцця і павіншаваў яе з атрыманнем Ганаровай граматы Рады арганізацыі.

*Алена Красоўская.*

# Верная пяснярка зямлі беларускай

Наталля Арсеннева з'яўляецца для нас і легендай, і таямніцай, і загадкай, і сімвалам беларускасці, што выжывае, здавалася б, у самых неспрыяльных умовах. Будучы далёка ад жыватворных каранёў, яна іх трымала ў глыбіні душы, яны былі з ёй разам заўсёды. Н. Арсеннева жыла ў Вільні на пачатку XX стагоддзя, калі тут большасць насельніцтва было беларусамі, гучала мова, развівалася культура. Вільню любую Н. Арсеннева лічыла і месцам свайго нараджэння, хоць нарадзілася яна на далёкім Каўказе, у Баку 20 верасня 1903 годзе ў сем'і рускага службоўцы з роду Арсеннывых што даў свету па мацярынскай лініі вялікага рускага паэта М. Ю. Лермантова. З таго ж роду і паэт ды вучоны Мікалай Арсенneў, які жыў у Амерыцы. Калі немцы падыходзілі пад Вільню ў час Першай сусветнай вайны, сям'я эвакуявалася ў глыбіню Расіі, да 1919 г. жылі ў Яраслаўлі, там перажылі рэвалюцыю і ўсе яе наступствы. Н. Арсеннева пачала пісаць вершы не ў 6 гадоў і не ў 10, як некаторыя "геніі". У гэтым узросце зімой яна любіла чытаць, а летам гойсаць па лугах і лазіць па дрэвах, што яна рабіла лепш за хлопчыкаў. У 14 гадоў удалося напісаць цэлы верш у 16 радкоў. У першыя дні студзеня 1920 года сям'я Арсеннвых вяртаецца зноў у Вільню, год дабіраліся, сямейныя абставіны складваліся дрэнна - памерла сястра, захварэлі маці і бацька. Наталля дае ўрокі французскай і нямецкай мовы ў школах Вільні, каб дапамагчы сям'і. Неўзабаве маладая паэтка разам з братам і сястрой паступаюць у Віленскую Беларускую гімназію, якая ў далейшым лёсе будзе мець вялікае значэнне.

Тут Наталля Арсеннева адважылася паказаць свае вершы настаўніку беларускай літаратуры, гэта была субота, а вечарам на вучэўскай вечарыне ён выйшаў першым на сцэну і абвясціў, што з'явілася новая Канстанцыя Буйло і прачытаў пададзеныя раніцай вершы. Першы верш, які быў напісаны па-беларуску і быў надрукаваны - "Восень". Яна і пачынала свой творчы шлях як паэтка восені. Вобраз восені стаў для яе найбліжэйшым, найшлюбёнейшым, вобраз прайшоў, праз усю паэзію. У першым зборніку "Пад сінім небам" (1927 г. Вільня) ёсць тры вершы "Восень, жоўтыя клёны!", "Сыплюцца з клёнаў лісты", "Восень у Вільні".

*Клёны апалі, і золата хварбы*
*Крыюць зямлю дарагім дыванам.*
*Поўныя жмені лістоў тых узяў бы,*
*Восеньскім сплёў бы іх, пышным вянком.*
*Таюць аблокі ў небе высокім,*
*Хвалі туману над Вільняй стаяць.*
*Места пярэсціцца ўнізе, далёка,*
*Вежы касцёлаў у неба глядзяць,*
*Цэркваў бліщчаць залатыя галовы,*
*Цёмнымі плямамі дрэвы ляглі,*
*Сіняй палоскаю бор наш хваёвы*
*Ледзь, а відаць за істужкай Вяллі..*
*Чуюцца, чуюцца восені чары*
*Ў хварбах, у тонах лісця і нябёс,*
*Лёгкім дрыжэннем кляноў у пагары,*
*Свежасці ільдзістай, што вецер прынёс...*

Напісана прыгожа, хоць у вершы і гучаць сумныя ноткі. Яго хочацца шаптаць, блукаючы па вулачках старажытнай Вільні, у якой праз прызму стагоддзяў адчуваецца дух Фр. Скарыны, горад які стаў увасабленнем беларускасці. Горад, у якім Наталля Арсеннева сфармавалася, як Асоба. У верасні спаўняецца 100 год з дня нараджэння паэткі, дворык Віленскай Беларускай Гімназіі, дзе проста фізічна адчуваецца прысутнасць Н. Арсенневай, тут своеасаблівая аўра, сюды прынеслі восеньскі букет у знак памяці і ўдзячнасці. У гэтых сценах запаліўся ў яе сэрцы агеньчык любові да Беларусі, да беларускай мовы, якую яна з годнасцю пранесла праз усё жыццё, будучы ў далёкім замежжы.

*А ці ж восень папраўдзе панурая?*
*Для мяне яна – блізкая, знаная,*
*Новай песняй у сэрца ўціскаецца*
*І натхненнямі, здаўна чаканымі,*
*Нада мной, як лісцём, асыпаецца...*
*("Жоўтая восень")*

Вобраз восені стаў стрыжнем у зборніку "Пад сінім небам", у зборніку "Жоўтая восень" так і не выдадзеным асобнай кнігай,...

*... У травах пажоўклых бліскучыя ніці, -*
*Людзям ніколі танчэйшых не звіці,*
*Астры астатнія ў садзе, - не рвіце:*
*Восені гэта ўбор...*
*("Жоўтыя клёны")*

Паэзію Н. Арсенневай пра восень, вобразнасцю і лірычнасцю, ужываннем мастацкіх сродкаў можна параўнаць з паэзіяй А. Пушкіна, Ф. Цютчава.

У Вільні яна ўзгадавалася як паэтка, атрымала прызнанне, упершыню былі надрукованы яе вершы ў газетах "Наша Думка", "Беларускія ведамасці", пад рэдакцыяй таго ж М. Гарэцкага.

У пачатку 90-х гадоў у Вільні выходзіла газета "Віленскі край", у першым нумары быў надрукаваны і верш "Восень у Вільні".

У Таварыстве Беларускай Культуры адзначылі ўгодкі Наталлі Арсенневай. Пра творчасць Н. Арсенневай расказала Л. Мілаш, А. Старавойтаў праспяваў некальні песень на словы паэткі, напрыканцы імпрэзы ўсе разам выканалі гімн "Магутны Божа". Угодкі паэткі адзначылі і ў Віленскай беларускай школе імя Фр. Скарыны, дванаццікласніцы чыталі вершы, урыўкі з біяграфіі, адзначыла юбілей і Асацыяцыя беларусістаў.

Хай афіцыйна ў Беларусі і забаронена імя Н. Арсенневай, хай выкрэсліваецца з праграм, з падручнікаў, яе творы занялі годнае месца на паэтычным Парнасе, дзверы Музы яе адчынены для зацікаўленых. Творчасць і асоба Н. Арсенневай цікавыя і заслугоўваюць глыбокага і пільнага вывучэння.

*Леакадзія Мілаш,*
*настаўніца Віленскай беларускай школы імя Фр. Скарыны.*




***Фрагмент незавершанай мемарыяльнай дошкі да 100-годдзя Наталлі Арсенневай. Пластылін.***

# БАРАЦЬБА ЗА ЧЫГУНКУ



| | |
|---|---|
| Секретариат Конституционного Суда Республики Беларусь ул. К. Маркса, 32 | Сакратарыят Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь |

**ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
**220005, г. Мінск,**
**вул. Румянцава, 13**

Ваш зварот аб абмежаванні выкарыстання беларускай мовы ў аб'явах на станцыях і паяздах беларускай чыгункі, а таксама ў паперах для пасажыраў разглядаецца.

Аб выніках Вам будзе паведамлена дадаткова.

**Начальнік Сакратарыята У. І. Жышкевіч.**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

Вашы звароты наконт абвяшчэння аб'яў у электрацягніках на беларускай мове разгледжаны.

Паведамляем Вам, што пераклад аб'яў на беларускую мову звязаны не з перакладам тэксту, а з абавязкамі дагавора, заключанага Беларускай чыгункай з ЗАТ "Галіновы цэнтр укаранення новай тэхнікі і тэхналогіі". Адзін з пунктаў дагавора абвяшчае, што любы доступ у сістэму аўтаматычнага вядзення цягніка, звязаны са зьмяненнем запраграмаванага тэксту, не дапускаецца без згоды з Пастаўшчыком.

Пасля атрымання згоды Пастаўшчыка, а таксама падліку матэрыяльных затрат будзе прынята канчатковае рашэнне. Аб прынятым рашэнні Вам будзе паведамлена дадаткова.

**Намеснік Начальніка Беларускай чыгункі У. В. Балахонаў.**

# ГЛУХАТА

З мэтай збору сродкаў для падпіскі газеты "Наша слова" і выдання юбілейных каляндарыкаў, якія прысвечаны Янку Купалу і Якубу Коласу; Міхасю Ткачову і інш., я звярнуся ў газеты "Полесская правда", "Пінскі веснік" і "Пинская неделя" надрукаваць звароты да ўсіх жыхароў раёна і горада: "Без вас мы не выжывем". Толькі "Пинская неделя" надрукавала Рэдактар "Пінскага весніка" ск-зала, што надрукуе, калі "Полесская правда" дасць гэты матэрыял на сваіх старонках. А спадар Скара-ход, сказаў, што ён не знае такога таварыства і знаць не хоча.

У гэтыя ж рэдакцыі даслаў просьбу - больш у газетах даваць беларускамоўных матэрыялаў. У адказ – маўчанне.

У базавыя і сярэднія школы даслаў лісты з просьбаю сабраць складкі для вышэйзгаданай мэты. І толькі дзве школы аператыўна адгукнуліся і сабралі, хоць і малыя сумы, але іх хапіла для выпіскі газеты ў бібліятэкі гэтых школ.

Кіраўнікі Лышчанскай СШ і М-Плотніцкай БШ Сяргей Ладыга і Надзея Сарока сумленна і адказна аднесліся да гэтай справы. Мы ўдзячны ім. Асабліва хачу адзначыць, што дырэктар Лышчанскай школы дапамог надрукаваць звароты ў школы раёна. У многія школы я асабіста званіў. Адзінкі абяцалі аказаць дапамогу ў зборы грошай. Многія адразу катэгарычна адмовіліся займацца гэтай нашай просьбай. Крыўдней за ўсё, што сярод такіх кіраўнікоў ёсць выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры.

Збіраюся дасласць у мясцовыя саветы лісты, каб высветліць, як беларуская мова ўжываецца ў справаводстве і ў рабоце сесій і сельвыканкамаў. Зноў трэба аддрукаваць каля 30 тэкстаў і іх разаслаць. Сродкаў на гэта ў арганізацыі няма. Спадзяюся зноў на дапамогу шчырага сябра ТБМ Сяргея Ладыга.

Дагукацца і дастукацца да глухіх справа нялёгкая, але не безнадзейная. Спадзяюся разбудзіць сумлення ў тых, для каго нацыянальная ідэя яшчэ нешта значыць.

# Гатовы адмовіцца ад Бога...

Царква раней была асноўным правадніком асветы, культуры, палітыкі, мовы ў масы. Першыя друкаваныя творы былі рэлігійныя. Святыя айцы былі значнымі асобамі любога горада і вёскі. Яны былі заўсёды ў цэнтры ўсіх падзей. Быў час, калі царква была ў загоне. Сёння царква атрымала сваё новае дыханне. Народ, які дзесяцігоддзі адлучаўся ад веры, ад Бога, з новай сілай пацягнуўся да слова Божага, да царквы і іншы малельных храмаў. Бацюшка стаў адной з самых паважаных асоб у вёсцы і горадзе. Шкада толькі, што слова Божае да нас даходзіць не праз родную мову. І просты чалавек часта не разумее таго, што гаворыцца ў малітве, царкоўнай літаратуры.

Яшчэ мала цэркваў, дзе правіцца служба на беларускай мове. Гэта адзінкі. Як праваслаўны чалавек, я хацеў бы чуць Слова Божае на рднай мове. З прыемнасцю слухаў радыёперадачу "Голас душу", якую вёў каталіцкі святар на прыгожай беларускай мове. Чаго не хапае нашым праваслаўным святарам, дык гэта разумення, што Слова Божае лепш даходзіць да людзей на іх роднай мове. Праваслаўныя святары асцярожна, баязліва ідуць у народ з роднай мовай. І як прыкра, крыўдна было чуць, як адзін праваслаўны святы айцец заявіў, што ён пакіне царкву, калі яму прыдзецца служыць у царкве на беларускай мове. Вось гэта дык вера ў Бога! Пасля такіх слоў, мая вера ў такога святара падарвалася. Што святар думаў, тое і выказаў. Але ж Гасподзь Бог яму суддзя. Можа святы айцец пакаецца, папросіць прабачэння і ў людзей, і ў Бога за свае прыкрыя словы. Гасподзь усяміласівы. І ён даруе блуднаму святару.

Хацеў бы звярнуцца да праваслаўных святароў з чалавечай просьбай: не цурайцеся мовы беларускай. Яна нам, беларусам, дадзена Госпадам Богам.

А калі дар Божы мы не будзем берагчы, мы страцім Міласць Гасподнюю, і Ён нас пакарае.

*Уладзімір Гук,*
*Пінскі р-н.*





# Да 140-х угодкаў паўстання Кастуся Каліноўскага



У Музеі выяўленчага мастацтва "Фонд Анатоля Белага" ў Старых Дарогах у гонар 140-годдзя студзеньскага паўстання 1863 года ўстаноўлена конная кампазіцыя "Кастусь Каліноўскі". Барэльеф, разьба, дрэва, 220 х 200 см, верасень 2003 г.

Кіраўнік праекту АнатольБелы, эскіз мастака Міколы Батрачнага, кардон мастака Анатоля Крывенкі, разьба народнага майстра Міхася Небышчынца.

Гэта першы конны і, мабыць, другі ўвогуле помнік Кастусю Каліноўскаму ў Беларусі.

# АДБЫЛАСЯ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ ЗОРЫ І ВІТАЎТА КІПЕЛЯЎ "БЕЛАРУСКІ І БЕЛАРУСКАВЕДНЫ ДРУК НА ЗАХАДЗЕ"

Менск, 27 верасня. Прэзентацыя кнігі Зоры і Вітаўта Кіпеляў "Беларускі і беларускаведны друк на Захадзе" прайшла 26 верасня ў бібліятэцы Дома літаратара.

У вечарыне, якую вёў намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Міхась Скобла, прынялі ўдзел вядомы літаратар Уладзімір Арлоў, гісторык і літаратуразнаўца Адам Мальдзіс, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, старшыня Беларускага ПЕН-цэнтра паэт і перакладчык Лявон Баршчэўскі, старшыня грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Алег Трусаў, былы міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, гісторык Віталь Скалабан, мовазнаўца Зміцер Саўка і іншыя дзеячы навукі і культуры.

"Компасам, з якім даследчыкі беларускай літаратуры могуць адпраўляцца ў самыя далёкія заплывы" назваў даследванне Кіпеляў М. Скобла. У сваёй прамове Вітаўт Кіпель, які адмыслова прыехаў з Нью-Ёрка на прэзентацыю выдання, зазначыў: "Нашай галоўнай задачай было захаваць інтэлектуальны высілак людзей". Праца над кнігай вялася больш за 40 гадоў, былі сабраныя камплекты 422 беларускіх эміграцыйных перыядычных выданняў, а таксама асобныя кнігі, календары і нават дакументы.

Як паведаміў БелаПАН В.Кіпель, сабраны архіў беларускай эміграцыйнай літаратуры перададзены на захаванне ў Нью-Ёркскую бібліятэку разам са спецыяльна ўтвораным фондам у 25.000 долараў. "Мы перадалі збор з умовай, што пры запатрабаванні гэтыя кнігі і часопісы будуць сфільмаваныя і перададзеныя некальким бібліятэкам тут", — адзначыў В. Кіпель.

Напрыканцы вечарыны старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч уручыў пасведчанні сяброў СБП самому В. Кіпелю, яго жонцы З. Кіпель (пасмяротна) і перадаў таксама пасведчанне для выдатнага беларускага гісторыка Я. Запрудніка.

*Максім ЗМІТРОВІЧ, БелаПАН.*

# ПАМІЖ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭКАЙ БЕЛАРУСІ І АЛЕКСАНДРЫЙСКАЙ БІБЛІЯТЭКАЙ БУДЗЕ ПАДПІСАНА ПАГАДНЕННЕ АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ

У пачатку снежня гэтага года плануецца падпісанне пагаднення паміж Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і Александрыйскай бібліятэкай Егіпта аб супрацоўніцтве ў навуковай і інфармацыйнай галінах. Дамоўленасць аб гэтым дасягнута падчас сустрэчы 22 верасня пасла Беларусі у Арабскай Рэспубліцы Егіпет Сяргея Міхневіча з намеснікам дырэктара Александрыйскай бібліятэкі, паслом Тахерам Халіфам.

У прэс-службе МЗС Беларусі адзначаюць, што падпісанне такога дакумента будзе спрыяць пашырэнню навуковых і культурных сувязяў паміж Беларуссю і Егіптам.

Александрыйская бібліятэка з'яўляецца найбуйнейшай у рэгіёне і ўяўляе сабою арыгінальную архітэктурную канструкцыю, якая займае агульную плошчу ў 85.405 кв. м. Вышыня будынка бібліятэкі — 33 метры. Ідэя рэканструкцыі старажытнай бібліятэкі ў Александрыі (пабудавана ў 332 годзе да нашай эры) прапанавана Александрыйскім універсітэтам і ў 1987 годзе падтрымана ЮНЕСКА. Праект рэканструкцыі бібліятэкі рэалізаваны за кошт фінансавых сродкаў шэрагу арабскіх краін, ЕС, ЮНЕСКА, ААН, а таксама Егіпта. Кошт праекту складае 225 млн. дол. ЗША.

У бібліятэчным комплексе дзейнічае галоўная бібліятэка, бібліятэка для дзяцей і моладзі, бібліятэка для людзей, што згубілі зрок, планетарый, канферэнц-цэнтр, навуковы і археалагічны музеі, музеі каліграфіі і рукапісаў, міжнародная школа інфармацыйнага навучання, залы для правядзення выстаў.

*Андрэй СЕРАДА, БелаПАН.*

# У МЕНСКУ АДКРЫЛАСЯ ВЫСТАВА "СТАРАЖЫТНАЯ КРЭМНЕЗДАБЫЎНАЯ СПРАВА Ў ПОЛЬШЧЫ І БЕЛАРУСІ"

30 верасня ў Менску ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрылася выстава "Старажытная крэмнездабыўная справа ў Польшчы і Беларусі".

У экспазіцыі прадстаўлена каля тысячы помнікаў, якія выкарыстоўваліся на заранку чалавецтва — у эпоху каменнага веку (каля 10 тыс. гадоў да н.э. — сярэдзіна V — пачатак II тысячагоддзя да н.э.). Тады камень, і асабліва крэмень, быў асноўнай сыравінай для вытворчасці прылад працы. Гэта выклікана падатлівасцю крэменя да апрацоўкі, яго даволі шырокай распаўсюджанасцю і аднačасова трываласцю крэмневых вырабаў. На выставе паказаны інструменты, элементы зброі і посуд, а таксама макеты і рэльефныя карты. Разрэзы крэмневых шахтаў даюць магчымасць уявіць складаны працэс здабывання і перапрацоўкі каменя ў Польшчы і Беларусі.

Як адзначыў дырэктар музея Пётр Хацько, выстаўны праект ажыццяўляецца ў рамках фестывалю "Восень з польскай культурай", арганізаваны музеем разам з Дзяржаўным археалагічным музеем у Варшаве, Польскім інстытутам у Менску пры дапамозе Цэнтра аховы археалагічнай спадчыны і сейма Мазавецкага ваяводства.

Паводле слоў П. Хацько, выстава сведчыць "пра пачатак аднаўлення нашага супрацоўніцтва з музеямі Польшчы".

Дырэктар Дзяржаўнага археалагічнага музея ў Варшаве Войцах Бжазінскі выказаў спадзяванне на выставу ў адказ у Варшаве з фондаў Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, а таксама на арганізацыю сумесных археалагічных экспедыцый вучоных дзвюх краін.

Падчас адкрыцця выставы адбылася прэзентацыя каталога "Знаходкі крамянёвых і каменных вырабаў ад палеаліту да ранняга жалезнага веку з тэрыторыі Беларусі ў фондах Дзяржаўнага археалагічнага музея ў Варшаве", падрыхтаванага аспірантам Інстытута археалогіі Варшаўскага універсітэта, магістрам Віктарам Абухоўскім.

У інтэрвію БелаПАН ён паведаміў, што ідэя стварэння гэтага каталога на польскай і беларускай мовах узнікла 6 гадоў таму. У кнізе прадстаўлены матэрыялы больш чым 160 археалагічных помнікаў, якія знаходзяцца на тэрыторыі сучаснай Беларусі. "Яны паступілі ў Варшаву ў перыяд 1890—1939 гадоў. Прычым палова з іх (калекцыі з Цэнтральнай Беларусі, сучаснага Старадарожскага і Чэрвеньскага раёнаў Менскай вобласці) збіраліся краязнаўцамі, якія куплялі гэтыя матэрыялы ў сялян, што іх знайшлі. Частка матэрыялаў — са збораў археолагаў-прафесіяналаў, якія прыязджалі з Варшавы ў гэты раён. На жаль, раней не больш чым 2 працэнты сабраных матэрыялаў знаходзілася ў навуковым карыстанні. Вось чаму такое важнае гэтае выданне для навукоўцаў дзвюх краін", — сказаў В. Абухоўскі. Паводле яго слоў, плануецца выпуск такіх каталогаў па жалезным веку і Сярэднявеччы. Выстава экспануецца да 30 кастрычніка.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

Беларуская мова — ТБМ — наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Надзея Барт-Юрэвіч, Германія - 115000 руб.
2. Лявон Анацка, г. Ліда - 6000 руб.
3. Валер Барташ, г. Севастопаль - 10 дол.
4. Адам Мальдзіс, г. Менск - 8000 руб.
5. Наталля Жучкова, г. Менск - 1000 руб.
6. Анатоль Хацкевіч, г. Менск - 500 руб.
7. Вітаўт Кіпель, ЗША - 200 дол.
8. Лемеш А. - 1000 руб.
9. Згрундо І. І. - 5000 руб.
10. Ждановіч М. В. -5000 руб.
11. Павел Хадоскін-Ігнацікаў, г. Гомель - 2000 руб.
12. Валянціна Вяргей - 20000 руб.
13. Васіль Кісляк - 9900 руб.
14. Веранiка Дзеружынская - 1 дол.

Таварыства беларускай мовы пры падрыхтоўцы да чарговага УІІІ з'езду панесла вялікія выдаткі і займела запазычанасці. Просім сяброў ТБМ па меры магчымасці падтрымаць арганізацыю ў гэтых умовах.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

Паведамленне

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | |

Касір

Пеня
Разам
Плацельшчык

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | |

Квітанцыя

Касір М.П.

Пеня
Разам
Плацельшчык





# УСПАМІНЫ МІХАІЛА ШВЭДЗЮКА

*(Праця. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Але на Палессі была зямля і пры рацыянальным разпарцэляванні розных маёнткаў яе хваціла б для мясцовых людзей. Зямлі не было для аўтахтонаў Палесся, але зямля была для... польскіх асаднікаў. Жыхары Палесся дазналіся і загаварылі, што ў іхніх ваколіцах з'явіліся палякі-асаднікі з цэнтральнай Польшчы, якім давалі зямлю за дарма і толькі за тое, што яны (асаднікі) служылі ў польскіх легіёнах Ю. Пілсудскага. Дык зусім зразумела, што мясцовыя людзі чуліся пакрыўджанымі, дыскрымінаванымі. Трэба тут яшчэ ўспамянуць, што ўся мясцовая ўлада (паліцыя, войты, старасты, ваяводы, судаўніцтва і т. д.) былі ў руках наезджых палякаў, чаго не можна называць раўнапраўем. Тым больш, што палякі на Палессі былі нацыянальнай меншасцю. Паводле пісу насельніцтва ў 1931 годзе, ў Палескім ваяводстве было 14,5% палякаў. А колькі сярод гэтых 14,5% было наезджых палякаў, няма статысткі, няма дакладных лічбаў.

Мала гэтага, перад вайной пачаўся націск на праваслаўе. Пачалі хадзіць чуткі, што палякі маюць замер адбіраць усе праваслаўныя цэрквы якія колісь былі ўніяцкімі (грэка-каталіцкімі). Гэта азначала амаль ўсе праваслаўныя цэрквы, бо да скасавання уніі ў 1839 годзе ўсе цэрквы, за малымі выняткамі, былі ўніяцкія. У гэтай супраць-праваслаўнай акцыі браў удзел тако ж польскі рымакаталіцкі касцёл разам з кардыналам Глёндам (Hlond). Ёсць чуткіі, што хочуць зрабіць яго святым.

Такія стасункі ў перадваеннай Польшчы прывялі б да этнічных і рэлігійных канфліктаў. Да гэтага ўжо даходзіла але поўнасцю яшчэ не дайшло, бо 1-га верасня 1939 г. Нямеччына напала на Польшчу, а 17-га верасня Саветы тако ж напалі на Польшчу.

Успомню тут коратка і асобна аб Завішчах. Бо з-за іх адбыліся потым (10. 02.1940 г.) трагічныя падзеі як арышты, высылкі і мучаніцтвы леснікоў, якія там працавалі ў памешчыка-графа Пуслоўскага

Завішча, гэта сядзіба і маёнтак графа Караля Войцаха Пуслоўскага, і ёсць яно паложана ў сямі кіламетрах на поўдзень ад Патапавіч. Найбліжэйшыя вёскі ад Завішча гэта: Патапавічы, Кончыцы, Перахрэсце, Семяховічы, Хамычава, Людынавічы і Ячкавічы.

Лес быў пераважна сасновы. Былі балотныя сенакосы. У цэнтры Завішча размяшчаўся мураваны палац, каля прыхожага возера. У возеры было многа рыбы і ракаў, але іх лавіць не дазвалялі. З-за неабдуманай меліярацыі савецкіх часоў і ў гонцы за ўраджаем, вада ў возеры ападае. Возера высыхае...

У палацы была каштоўная антычная мэбля, якую Саветы вывезлі да дзяржаўнага Гістарычнага музея ў Маскве. А сам палац разабралі мясцовыя людзі падчас астатняй вайны, каб ужыць цэглу з яго на печкі ("грубы") . Так мне казалі.

Сярод службоўцаў у маёнтку было многа "балахоўцаў", г. зн. людзей з былой арміі генерала Станіслава Булак-Балаховіча, як Шахоў, Варанцоў і іншыя. А леснікамі былі пераважна мясцовыя жыхары. І так, з Патапавіч былі браты Паўла і Сяргей Канaнчук і Канстанцін Швэдзюк (мой дзед). З Семяховіч былі браты Іван і Паўла Ражкавец і сын Івана Сідар. З Семяховіч быў тако ж Багдановіч. З вёскі Хамычава леснікам быў Іван Жушма. Былі яшчэ і другія леснікі. Як браты Антон і Павел Кулікі...

Галоўнай працай і клопатам леснікоў было глядзець за парадкамі ў лесе, пільнаваць лес ад пажараў і крадзежы, прадаваць лес, гадаваць "школкі" і садзіць новы лес. Падчас палявання ведаць, дзе і якая ёсць звярына, каб туды завесці паляўнічых.

У лесе было многа ягад, суніц, журавін, брусніц, грыбоў, казлякоў і т. п. З жывёлы ў лесе былі ваўкі, дзікі, казлы. У каналах і равах была рыба і ўюны. А розных птушак было так многа, што проста ўсяго не апішаш і не пералічыш.

Каб збіраць ягады ці грыбы ў лесе, мясцовыя людзі мусілі мець спецыяльнае дазваленне, т. з. квіток. Каб дастаць квіток, трэба было адпрацаваць тры дні ў маёнтку.

Паводле старадаўняга грэцкага гісторыка Герадота, на сёняшнім Палессі было калісь мора якое назвалі Герадотавым морам. Ёсць многа знакаў, якія пацвярджаюць гэтую гіпотэзу. От некалькі ўспамінаў.

**Чарапахі.** Вядома, што ў прыродзе жывуць толькі стэпавыя і марскія чарапахі. На Завішчы, каля балот, ёсць чарапахі. Выглядае, што яны былі калісь марскімі, а цераз эвалюцыю перекваліфікаваліся на балотныя.

**Бурштын.** У ваколіцах Патапавіч, напрыклад каля Янава, людзі знаходзілі бурштын. А бурштын знаходзіцца пераважна каля мора.

**Белы пясок.** Ад Патапавіч у бок Пагоні былі белыя пяскі, якія прыпаміналі пляжныя пяскі.

Падчас вайны Патапавічы былі поўнасцю спалены. Ёсць дзве версіі, хто гэта зрабіў. Адныя вінавацяць немцаў, а другія партызанаў. Бедныя патапаўцы доўгі час жылі ў зямлянках.

Па вайне вёска адбудавалася, але паводле іншага стылю. Я быў там два разы, у 1989 і 1993 гадах. Вёска курчыцца, пусташэе. Моладзь не хоча працаваць у калгасах, а шукае шчасця ў гарадах. Многа дамоў пустых. Дзеля таго, што няма каму абрабляць зямлі ў калгасе, начальства было змушана вербаваць работнікаў з суседняй Украіны. З гэтага поваду ў Патапавічах пасяліліся многа украінскіх сем'яў. Выглядае, што жыццё на украінскім Палессі ёсць цяжэйшае чым на беларускім Палессі.

На канец гэтага апісу Патапавіч, варта зрабіць статыстыку людскіх страт гэтай вёскі падчас астатняй вайны.

А. Саветы арыштавалі і вывезлі тры сям'і леснікоў. Разам: 21 асобы

Вярнулася дамоў па вайне: 5 асобаў.

Цераз вывазку Саветамі вёска страціла: 16 асоб.

Б. Выехалі на захад (Польшча, Нямеччына) у 1944 г. перад новым прыходам саветаў тры сям'і разам: 14 асоб.

В. Вывезена на работы да Нямеччыны і не вярнуліся: 2 асобы

Г. Загінула ад немцаў і партызанаў: 3 асобы

Д. Загінула на фронце, служачы у польскім войску і Чарвонай Арміі...

Дык паводле гэтай, напэўна не поўнай статыстыкі. Патапавічы страцілі найменш 35 асобаў. Думаю, што страцілі больш. Я ж не ведаю колькі людзей загінула служачы ў польскім войску і Чырвонай Арміі.

Хацеў бы звярнуць увагу, што найвялікшыя людскія страты Патапавічы панеслі ад Саветаў ці цераз Саветаў.

**1.IX.1939 – 9.II. 1940 г.**

1-га верасня 1939 года Нямеччына напала на Польшчу. Пасля аднаго тыдня, на нашых палескіх дарогах з'явілася многа польскага войска. З'явілася тако ж многа бежанцаў з цэнтральнай Польшчы. Усе адступалі ці ўцякалі ад нямецкай няволі. І хоць да вайны палякі ўбівалі людзям і сябе ў галовы, што не аддадуць "нават гузіка", ўсе верабі'і ў паветры спявалі, што Польшча праіграе вайну. Пытанне было толькі, як доўга Польшча ўтрымаецца ў няроўным баі. Тыдзень ці два. Нават найлепшая конніца не можа раўняцца да найслабейшых нямецкіх танкаў. А ў немцаў танкі і ўсялякая зброя была добрая. Пасля двух ці трох тыдняў Польшча перастала існаваць.

17-га верасня ў паветры паказаліся нізка лятучыя самалёты. Самалёты з зоркамі, савецкія самалёты. Скідалі ўлёткі над гарадамі, над вёскамі. Ва ўлётках было напісана, што "... Польшча пацерпела паражэнне..., што польскі ўрад уцёк і пакінуў народ на волю лёсу..." і т. д., і т. д. Дзеля гэтага савецкі ўрад пастанавіў увесці Чырвоную Армію ў Заходнюю Беларусь і Украіну каб "... вызваліць беларусаў і ўкраінцаў ад памешчыкаў, ад прыгнятальнікаў, ад белапалякаў ... і д. п."

Дзіўна і цынічна гучыць гэтая хлусня сягоння, ведаючы цяпер, што Саветы ўвайшлі да Заходняй Беларусі і Украіны на падставе сакрэтнай дамовы паміж фашысцкай Нямеччынай і камуністычным СССР і падпісанай Рібентропам і Молатавым.

Нічога ў гэтых улётках не гаварылася, што Зах.Беларусь апынулася пад Польшчай, бо Савецкая Расея на гэта згадзілася ў ганебнай дамове ў Рызе ў 1921 годзе. Між іншым, у Рызе Савецкая дэлегацыя аддавала палякам нават... Менск. Так рабіў "старэйшы брат!"

Ад 31-га кастрычніка па 2-га лістапада 1939 г. Вярхоўны Савет СССР браў пастанаўленні ў польскіх справах. І тады камісар замежных спраў, Вячаслаў Молатаў сказаў.

"... Лоскутное государство, уродливое детище Версальского договора, Польша, перестала существовать..."

Не прадбачыў камісар В. Молатаў, што цераз два с паловай гады, трэба будзе весці перамовы з прадстаўнікамі "лоскутного государства" ў Лондане, Англіі.

Цераз некалькі дзён пасля 17. IX. 1939 г. на дарогах і па вёсках пачало з'ўляцца многа людзей, якія гаварылі, што яны сядзелі ў сумна вядомай Картузскай Бярозе як "палітычныя вязьні".

Усе яны гаварылі па-руску. Як на "цюрэмшчыкаў", ды яшчэ з такой цяжкай турмы, выглядалі яны добра, здарова. Гаварылі яны аб свабодзе, аб дабрабыце ў СССР. У нашай вёсцы яшчэ перад прыходам Чырвонай Арміі, гэтыя "цюрэмшчыкі" пачалі ўстанаўліваць трыумфальныя аркі, цераз якія мела ісці Чырвоная Армія. Над аркай напісалі: "Да здравствует Освободительная Красная Армия!", "Да здравствует великий И. В. Сталин!"

Рэтраспектыўна можна падазраваць, што гэтыя "палітычныя вязьні" былі савецкімі... выведнікамі, шпіёнамі. Бо, сапраўды, калі яны былі цюрэмшчыкамі з Картузскай Бярозы, дык чаму яны не спяшаліся вяртацца да сваіх родных, блізкіх, да сваіх жонак, дзяцей? Чаго яны шукалі ў чужых вёсках? Мала гэтага, перад самой вайной польская паліцыя арыштавала аднаго, зусім не вінаватага, жыхара Патапавіч (Доўгера). Ніхто не ведаў, што з нім сталася. Бедняга вярнуўся ўжо дамоў, як прышлі Саветы. Аказалася, што ён (Доўгер) быў у Картузскай Бярозе. Змяніўся да непазнання. Быў фізічна і духоўна выканчаны. Доўга не пажыў; памёр ад цялесных і духоўных пераэжыванняў... Дык мы, жыхары Патапавіч, маглі параўнаваць сапраўднага цюрэмшчыка з Картузскай Бярозы з тымі псеўдацюрэмшчыкамі якія будавалі трыумфальныя брамы-аркі і усхвальвалі СССР, Сталіна і т. д.

Да нашай вёскі Патапавічы прыйшла Чырвоная Армія. Трэба сказаць шчыра, што першае ўражанне не было "восхищающее". Шынялі, боты, вопратка не належалі да найлепшых у свеце. Відно было, што з правіянтам было круха: чырвонармейцы гналі многа кароў, якіх пазабіралі ці зрабавалі па дарозе ў розных маёнтках.

Гаварылі мы з нашымі "освободителями" чырвонаармейцамі. У групах усе яны ўсхвалявалі Сталіна, лад, СССР. Гаварылі, як там добра, што ўсё ёсць, што ўсе бясплатна вучацца, бесплатна лечацца і т. д. Але ў "адзіночку" тойжа чырвонаармеец гаварыў зусім інакш. Гаварыў аб пустых крамах, аб бедных калгасах, аб арыштах, аб высылках...

Польская адміністрацыя спынілася, а савецкая пакуль яшчэ не ўпарадкавалася. Было поўнае бязпраўе. Па вёсках пачалі фармавацца "часовыя сельскія камітэты" пераважна з гультаёў і п'яніцаў. Ад такіх людзей, якіх ніхто не выбіраў, не можна было спадзявацца нічога добрага.

У гэты "бяспраўны" час, слова "свабода" было найбольш пашыраным і ўжываным словам. Вясковыя людзі слова "свабода" разумелі па своему. Праўда, не ўсе. Для адных гэтая "свабода" азначала, што могуць ісці ў лес на Завішча і секчы найлепшае дрэва. Для другіх гэта азначала забіваць, не ў пару, лясную звярыну. А для некаторых "свабода" азначала здабыццё зброі, каб потым ісці і рабаваць чужую маёмасць альбо, каб "расправіцца" з тымі, з кім мелі якоясь там непаразуменне за польскіх часоў. Дзень у дзень хадзілі чуткіі аб забойствах людзей. Ахвярамі былі не толькі ўладальнікі маёнткаў, але і леснікі, настаўнікі, праваслаўныя святары, паліцыянты і д. п.

У вёсцы Дубое дзе была наша прыходская царква, "камітэтчыкі здзекаваліся над святаром а. Рашотккам. Дамагаліся ад яго золата, каштоўнасцяў, якіх айцец Рашотка не меў. Сярод камітэтчыкаў быў малады хлопец (Ф. В-к), якому айцец Рашотка паставіў двойку на ўроку Закону Божага... за польскім часам.

Вечарамі і на начах людзі ў нашай вёсцы пачалі засланяць вокны, замыкаць дзверы. Ніхто не быў пэўны ці забачыць заўтрашні дзень. Браты Паўла і Сяргей Кананчукі, былыя ляснікі, уцяклі з вёскі і пасяліліся ў Пінску. Запанаваў псіхоз жаху, недавер'я, маўчання, заздрайсці. Людзі хадзілі з апушчанымі галовамі і з сумнымі тварамі У колішняй вясёлай і спеўнай вёсцы, дзяўчаты і хлопцы перасталі спяваць.

Да мілагучай палескай гаворкі пачалі ўкрадацца чужыя, часта людзям не зразумелыя словы, як "кулак", "паразіт", "тунеядзец", "вораг народа", "кравапіец і д. п."

Гэтыя фальшывыя эпітэты пачалі пашырацца і пачалі прыпісвацца каму-небудзь, а пераважна да сем'яў леснікоў. Цяжка, вельмі цяжка, было тады жыць. Але як доўга такое жыццё магло цягнуцца? Калі і які будзе гэтаму канец?

Хутка пасля 17-га верасня 1939 г. савецкія ўлады пачалі "прыглашать" людзей на агульныя сходы. Сходы былі вельмі часта, амаль што кожны дзень, на якіх камісары давалі доўгія "рэчы". Ўсхвалялі Савецкі Саюз і бацьку народаў – Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна. Сходы канчаліся доўгімі і працяглымі апляснамі: інакш не магло быць.

На сходы ішлі ўсе: маладыя і старыя, здаровыя і хворыя, зацікаўленыя і абыякавыя. Ішлі, бо "трэба" было ісці. Ішлі з-за боязні. Бо хто не прыйшоў, дык яго ці яе хутка падазравалі ў варожасці да Савецкай улады.

Бо ўжо тады нам хутка абвясцілі савецкую логіку, савецкі лад жыцця, які зносіўся да слоў: "Хто не з намі, той супраць нас". З такім "філасофскім" падыходам да сваіх людзей, ворага ў савецкім разуменні было знайсці вельмі лёгка. І знайходзілі...

Пачаліся перапісы, перапісы, бясканцовыя перапісы насельніцтва. Адбылося галасаванне, выбары дэпутатаў.

# УСПАМІНЫ МІХАІЛА ШВЭДЗЮКА

З прыходам Саветаў колішнія, пры Польшчы заваленыя крамы, цалкам апусцелі. Не можна было купіць солі, цукру, мыла, тытуню, запалак, газы (нафты), не гаворачы ўжо аб ботах, манафактурных вырабах і іншых, неабходных для жыцця, рэчах. Настаў незразумелы для нас "дэфіцыт". З-за дэфіцытаў людзі пачалі паўтараць анекдоты ці прыказкі, якія чулі ад "асвабадзіцельных" чырвонаармейцаў, як, напрыклад, украінскую прыказку: "Ны коровы ны свіні, тілько Сталін на стыні..." А што партрэты Сталіна віселі паўсюль, дык гэта агульна вядома.

Пакрысе сёе-тоё пачало паказвацца ў крамах. Тады людзі як найскарэй станавіліся ў чэргі ("очереди"). Божа, Божа, колькі я бачыў гэтых чэргаў у Пінску ў 1939-40 гг. колькі часу людзі марнавалі і мерзлі стоячы ў гэтых чэргах! Колькі сварак, нараканняў, праклёнаў можна было пачуць у гэтых чаргах. Часам людзі станавіліся ў чэргі нават не ведаючы, што там будзе прадавацца; "чарга" азначала продаж дэфіцытных рэчаў.

Пасля першай эйфарыі ад прыходу Чырвонай Арміі людзі пачалі расчароўвацца; забачылі і ўсвядомілі, што СССР - гэта не "рай" на зямлі", а пекла. І так мы жылі, цярпелі і чакалі няведама чаго.

Але аб нас, "освобожденных", не забыў "отец народов" І. В. Сталін і яго паплечнік Л. П. Берыя, які пачаў рабіць свае д'ябальскія планы аб арышце і дэпартацыі нявінных людзей з Заходняй Беларусі і Украіны. А пачатак быў наступны:

Ужо 29-га снежня 1939 года, тры с паловай месяцы пасля прыходу Чырвонай Арміі ў Зах. Беларусь, былі прыняты і зацверджаны "Палажэнне" і "Інструкцыя" Пастановай СНК Саюза ССР № 2122-616 сс. Палажэнеце было "Аб спецпаселеннях і працоўным уладкаванні асаднікаў, выселеных з заходніх абласцей УССР і БССР". А Інструкцыя была ад "Народнага камісарыяту ўнутраных спраў Саюза ССР" Палажэнне і Інструкцыя былі, натуральна, "ЗУСІМ САКРЭТНЫМІ" і іх падпісаў Лаўрэнці Бэрыя.

Хоць у Палажэньні і Інструкцыі гаворыцца аб асадніках арышты і дэпартацыі закранулі ўсіх леснікоў, сярод якіх былі амаль 100% беларусы і ўкраінцы. Чаму гэтых леснікоў не ўспамінаецца, - нам не ведама. А можа Л. Берыя не хацеў каб СНК Саюза ССР ведаў, што арышты і дэпартацыі будуць адбывацца коштам беларусаў і украінцаў?

Дзеля яснасці і аб'ектыўнасці прыводзім ніжэй копіі Палажэння і Інструкцыі № 2122-617 сс. Успомню тут, што Палажэнне і Інструкцыя увайшлі ў дзеянне 10.02. 1940 года, г. зн. у гэты дзень пачаліся масавыя арышты і вывазкі.

### АРЫШТ І ДЭПАРТАЦЫЯ. 10.II. 1940-23.II. 1940 .

У вёсцы Патапавічы было трое леснікоў, якія служылі ў графа Пуслоўскага з сядзібай ў маёнтку Завішча. Сем'і леснікоў, як і ўсе вяскоўцы, займаліся хлебаробствам. Праца і абавязкі ляснікоў ніколі не былі зайздроснымі. Цяжка было дагадзіць супрэчным вымаганням графа і патрабаванням мясцовых людзей. Але, на жаль, ляснікі, як і паліцыянты і д. п. былі, ёсць і будуць патрэбнымі ў грамадстве так доўга, як людская натура будзе імкнуцца больш да зла чым да добра. Між іншым успомню тут, што бацька народнага паэта Якуба Коласа быў також леснікам, а расійскага паэта Уладзіміра Маякоўскага, нават ляснічым. Можна падазрываць што, калі б бацькі Коласа і Маякоўскаг жылі пры Сталіне і Берыі, дык іх тако ж вывезлі б на ... катаргу

З Патапавіч ляснікамі былі: браты Павел і Сяргей Кананчукі і мой дзед па бацьку Канстанцін Швэдзюк. Усе яны жылі ў вёсцы Патапавічах са сваімі сем'ямі. Пасля пачатку бязпраўя ад 17.IX. 1939 года Павел і Сяргей выехалі жыць да Пінска, дзеля сваіх асабістых бяспечнасцяў. Савецкія органы іх там арыштавалі, судзілі і выслалі ў глыб СССР на катаргу. Вярнуліся дамоў ужо па вайне.

Мой дзед Канстанцін нікуды не выязджаў і жыў у Патапавічах разам з намі. Ён нікому крыўды не зрабіў як быў ляснікам, і на яго не было ніякога даносу. Нават фальшывага.

Згодна з Пастановай СНК Саюза СССР ад 29 снежня 1939 года, НКВД арыштавала 10 лютага 1940 года ўсе тры сям'і леснікоў з Патапавіч.

Зіма 1940 года была, хто памятае, незвычайна халодная, як ніколі, марозы даходзілі да – 40 гр. па Цэльсію. І ў гэты халодны дзень, у суботу, 10 лютага 1940 года, раніцай, нашу сям'ю абудзіў моцны грукат у дзверы. Чуць было крык: "Открывай дверь". Дзверы адчынілі і мой бацька Сава забачыў перад сабою ўзброеных энкавэдзістаў. Прывёў іх да нашай хаты мясцовы жыхар вёскі Якаў Ж-скі, якога жонка была для нас... крэўная.

Абуджаная ад сну, перапалоханая і ўжо ў слязах- наша сям'я чакае, што будзе далей. Доўга не чакалі.

Пачалі правяраць ці ўсе ёсць у хаце. Аказалася, што на аркушы да арышту была ўся наша сям'я г. зн. дзевяць асоб. Але ў тым часе ў хаце было толькі восем асоб. Асобай, якой не было тады дома, быў я. Дык давай энкавэдзіст выпытвацца, дзе я падзеўся, што ёсць са мною. Яму выяснілі, што я вучуся ў Пінску. Запатрабавалі адрасы, дзе я жыву і вучуся ў Пінску.

*(Пра сябе больш дакладна ў наступным раздзеле.)*

Пасля праверкі аркуша асоб, якія падлягалі пад арышт, энкавэдзіст даў строгі загад для бацькі і для дзеда, каб яны сядаліся на падлогу каля сцяны і залажылі рукі за патыліцу. Іх дваіх, ужо сядзячых на падлозе, увесь час пільнаваў энкавэдзіст з рэвальверам у руцэ. А ашаломелым і ў слязах маці, сёстрам і брату быў дадзены яшчэ адзін строгі і злавесны загад: "Собирайтесь с вещами."

Хутка пасля гэтых страшэнных і зверскіх паводзінаў да нашай хаты прывялі Дзімітрыя Кананчука і яго дваюраднага брата Івана Кананчука. Яны былі сынамі леснікоў Паўла і Сяргея.

Іх тако ж пасадзілі на падлозе каля сцяны з рукамі за патыліцамі. Дык тады стала ясна, што не толькі нашу адну сям'ю арыштавалі. Няшчасце закранула і другіх людзей.

*(Працяг у наст. нумары.)*

# СВЕДЧАЦЬ ДАКУМЕНТЫ

ЗУСІМ САКРЭТНА
Копія

Зацверджана
Пастановай СНК Саюза ССР
ад 29 снежня 1939 г. № 2122-617 сс

### ПАЛАЖЭННЕ

**Аб спецпасяленнях і працоўным уладкаванні асаднікаў, выселеных з заходніх абласцей УССР і БССР**

1. Асаднікі і іх сем'і, пераселеныя НКУС СССР з заходніх абласцей УССР і БССР, размяшчаюцца для працоўнага выкарыстання ў спецпасёлках, арганізаваных у раёнах лясных распрацовак Наркамлесу СССР.

2. Спецпасёлкі для перасяленцаў-асаднікаў арганізуюцца НКУС СССР з разліку ад 100 да 500 сем'яў на адзін пасёлак.

3. Адвядзенне жылых памяшканняў і камунальна-бытавога абслугоўвання спецперасяленцаў-асаднікаў праводзіць Наркамлес СССР па нормах, устаноўленых для рабочых прамысловасці. Пры гэтым кожнай сям'і спецперасяленцаў-асаднікаў прадастаўляецца асобны пакой або асобнае месца ў бараку з разліку не меней 3 кв. м. жылой плошчы на чалавека.

4. Адміністрацыйнае кіраванне спецпасёлкамі асаднікаў ажыццяўляцца раённымі і пасялковымі камендатурамі НКУС СССР. Пасялковыя камендатуры НКУС СССР арганізуюцца ў кожным спецпасёлку, а раённыя камендатуры НКУС СССР – у адміністратыўных раёнах з размяшчэннем іх у цэнтры тэрыторыі, на якой размешчаны спецпасёлкі.

5. Камендатуры НКУС СССР у спецпасёлках ажыццяўляюць улік спецперасяленцаў-асаднікаў, вядуць барацьбу з уцёкамі, сочаць за захаваннем устаноўленага ў пасёлках грамадскага парадку і правілаў працоўнага карыстання.

6. Выдаткі на ўтрыманне раённых і пасялковых камендатур, а таксама выдаткі, звязаныя з адміністрацыйным абслугоўваннем спецперасяленцаў-асаднікаў (сродкі перасоўвання, паштова-тэлеграфныя выдаткі і інш.) робяцца па кашторысах камендатур за лік сродкаў, утвораных у парадку штомесячных адлічэнняў ад заработнай платы спецперасяленцаў-асаднікаў, у межах не звыш 10%...

17. Усе працаздольныя спецперасяленцы-асаднікі абавязаны займацца грамадска-карыснай працай на работах, прадастаўленых ім прадпрыемствамі Наркамлесу.

19. Спецперасяленцы-асаднікі і іх сем'і, пасселеныя ў спецпасёлках, не маюць права выезду за межы адміністрацыйных раёнаў. Адлучкі са спецпасёлкаў або месца працы на час звыш 24 гадзін, а таксама перамяшчэнне ў межах пасёлка з аднаго барака (дома) ў другі дапускаецца толькі з дазволу каменданта пасёлка.

Народны камісар унутраных спраў Саюза ССР Л. БЕРЫЯ"

"ЗУСІМ САКРЭТНА

Зацверджана
пастановай СНК Саюза ССР
Ад 29 снежня 1939 г. № 2122-617 сс

### ІНСТРУКЦЫЯ

**Народнага камісарыяту ўнутраных спраў Саюза ССР ад 29 снежня 1939 года**

1. Высяленне асаднікаў з заходніх абласцей УССР і БССР праводзіцца адначасова па УССР і БССР у дзень, назначаны НКУС СССР.

2. Пры высяленні асаднікаў уся нерухомая маёмасць, сельгасінвентар, хатняя жывёла застаецца на месцы і прымаецца па акту мясцовымі ўпраўленнямі.

3. Асаднікам дазваляецца забраць з сабой наступнае:

1) адзенне, 2) бялізна, 3) абутак, 4) пасцельныя рэчы, 5) посуд сталовы (лыжкі, нажы, відэльцы), чайны і кухонны, 6) харчы з разліку месячнага запасу на сям'ю 7) дробны гаспадарчы і бытавы інструмент (сякера, піла, рыдлёўка, малаток, каса, граблі і г. д.), 8) грошы (сума не абмяжоўваецца) і бытавыя каштоўнасці (пярсцёнкі, гадзіннікі, завушніцы, бранзалеты, партсігар і да д. п.), 9) куфар ці скрыню для рэчаў.

4. Агульная вага пералічаных рэчаў не павінна перавышаць 500 кг на сям'ю.

Дадатак: Грувасткія рэчы, у тым ліку гаспадарчы інвентар, перавозяцца ў спецыяльна выдзеленых вагонах.

5. Адпраўка асаднікаў да месца пасялення выконваецца цягнікамі ў складзе 55 цягнікоў, абладжаных па-зімоваму для перавозак людзей (у тым ліку адзін класны вагон для аховы і адзін абсталяваны санізалятар). У кожны вагон змяшчаецца 30 чалавек дарослых і дзяцей з іх рэчамі. Для грувасткіх рэчаў на кожны цягнік выдзяляецца па 4 таварныя вагоны.

6. На кожны цягнік НКУС СССР прызначае начальніка цягніка і адпаведную ахову Наркамздраў СССР забяспечвае цягнікі медыцынскім персаналам у складзе аднаго медфельчара і дзвюх медсясцёр на кожны цягнік і адпаведнымі медыкаментамі.

За 10 дзён да падачы вагонаў НКУС СССР прадстаўляе НКШЗ заяўку на цягнікі з дакладным указаннем даты падачы цягнікоў, станцыі пагрузкі і станцыі прызначэння. Падача цягнікоў забяспечвае НКШЗ не пазней за 3 дні з моманту паступлення заяўкі НКУС СССР.

7. У дарозе на чыгунцы спецперасяленцы-асаднікі атрымліваюць бясплатна адзін раз у суткі гарачую страву і 800 г. хлеба на чалавека. Гатаванне і выдача ежы на шляху руху робіцца па заяўках начальніка цягніка НКУС трэстам чыгуначных рэстаранаў і буфетаў Наркамхарчу СССР. Аплата выдаткаў на харчаванне спецперасяленцаў-асаднікаў па дарозе руху робіцца НКУС СССР.

8. Спецперасяленцы-асаднікі накіроўваюцца на лесараспрацоўкі Наркамлесу ў Кіраўскую, Пермскую, Валагодскую, Архангельскую, Іванаўскую, Яраслаўскую, Новасібірскую, Свярдлоўскую і Омскую вобласці, Краснаярскі і Алтайскі край і Комі АССР і размяшчаюцца на месцах працы ў асобных пасёлках ад100 да 500 сем'яў у кожным. Падрыхтоўку да прыёму спецперасяленцаў-асаднікаў, прадастаўленне ім памяшканняў і працаўладкаванне іх ускладаецца на Наркамлес СССР.

9. Перавозка спецперасяленцаў-асаднікаў ад станцыі прыбыцця да месца пасялення арганізуецца НКУС СССР. Наркамлес СССР выдзяляе ў распараджэнне НКУС СССР неабходны аўтатранспарт і харчаванне ў колькасці, якая забяспечвае аднначасова перакідку прыбылых спецперасяленцаў-асаднікаў.

У выпадку неабходнасці краявыя і абласныя камітэты абавязаны прадаставіць у распараджэнне НКУС СССР дадатковы аўтагужтранспарт шляхам прыцягнення мясцовых арганізацый і калгасаў.

Народны камісар унутраных спраў Саюза ССР Л. БЕРЫЯ"

*(Цытаты ўзятыя з кнігі Яўгена Семашкі пад назовам "Армія Краёва на Беларусі", Мінск 1994 г.)*

№ 37 (624) 8 КАСТРЫЧНІКА 2003 г. Наша слова

# “Лясныя” знакі на Нясвіжчыне

Наша газета не раз пісала пра так званыя “лясныя” знакі з. зн. знакі, якія з рознай нагоды, а найбольш для эстэтычных ды выхаваўчых мэтаў выстаўляюцца ляснымі службамі наўскрай лясных масіваў ды абапал лясных дарог. Нядаўна мы апавядалі пра тое, што ўздоўж усёй трасы Менск - Горадня ўдалося выявіць толькі адзін беларускамоўны надпіс “Беражыце лес” сярод мноства расейскамоўных. Так выглядае справа каля дарогі рэспубліканскага значэння, а што робіцца ў беларускай глыбінцы? Вось спакойная дарога Ліда - Нясвіж, што ідзе ўпоперак асноўных трасаў, з поўначы на поўдзень.

Дарога ідзе па Лідскім, Наваградскім, Карэліцкім, крыху па Стаўпецкім і, нарэшце, па Нясвіжскім раёнах і па Лідскім, Наваградскім, Налібоцкім ды Нясвіжскім лясніцтвах адпаведна. Дык што тут робіцца з “ляснымі“ знакамі? Малюнак крыху лепшы, хоць і нязначна. Прынамсі, у Наваградскім ды Карэліцкім раёнах трапляюцца можа адзін з дзесяці беларускамоўныя надпісы. Але вось уязджаем на Нясвіжчыну...

Не, і тут мы не можам сказаць, што заехалі ў сапраўдную Беларусь. І тут дастаткова рускамоўных плакатаў і шыльдаў, але гэта ў асноўным тыя плакаты, што засталіся з савецкіх часоў і рэгулярна з году ў год то падфарбоўваюцца, то падмалёўваюцца.

















А вось новыя плакаты поблізу нядаўна абсталяваных месцаў прыпынку і адпачынку выкананы ў асноўным па-беларуску. Каб не было блытаніны, трэба адзначыць, што Нясвіжскае лясніцтва адносіцца да Клецкага лясгасу, таму і фігуруе на надпісах “Клецкі лясгас”, хоць гэтыя плакаты стаяць на самай поўначы Нясвіжскага раёна.

Канешне гэтыя некалькі беларускіх плакатаў на 20-ці кіламятровым участку дарогі надвор’я на Беларусі не зробяць, але на гэтых 20-ці кіламетрах гэтыя плакаты складаюць каля 50-ці працэнтаў з усіх тут размешчаных, а гэта ўжо некалькі нагадвае рэальнае дзвюхмоўе, а не тое папяровае, дакляраванае, але так нідзе і не рэалізаванае: ні ў адукацыі, ні ў СМІ, ні ў справаводстве, ні на вытворчасці, ні ў сферы абслугоўвання.

Трэба спадзявацца, што Нясвіжчына не адзіны раён Беларусі, дзе цудоўнае беларускае слова так гарманічна спалучаецца з цудоўнаю беларускаю прыродаю і што тэндэнцыя афармляць лясныя плакаты па беларуску знойдзе сваіх паслядоўнікаў.

*Яраслаў Грынкевіч.*





# БАРАЦЬБА ЗА МЕТРО

Рэспубліка Беларусь
МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
Транспартнае камунальнае унітарнае прадпрыемства "Мінскі метрапалітэн"

Республика Беларусь
МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
Транспортное коммунальное унитарное предприятие "Минский метрополитен"

№ 1390 от 18.09.2003
на № ___ от ___

Кручкоў С.
г. Мінск,
вул. Сядых,
50-9

На Ваш запыт на імя старшыні Мінскага гарадскога выканаучага камітэта Паулава М.Я. з патрабаваннем аформіць станцыі метрапалітэна на дзяржаунай беларускай мове і пераагучыць інфармацыйныя паведамленні, якія выкарыстоуваюцца на станцыях, паведамляю:

- адпаведна з вынікамі перапісу насельніцтва 1999 года, большасць жыхароу г. Мінска лічаць сваёй роднай і карыстаюцца у якасці мовы зносін рускую мову;
- паслугамі Мінскага метрапалітэна карыстаюцца не толькі жыхары г. Мінска і Рэспублікі Беларусь, але і госці ближэйшага замежжа.

Па адзначаным прычынам усе гукавыя паведамленні на станцыях метрапалітэна, якія датычацца **бяспекі пасажырау**, агучываюцца на рускай мове, што не супярэчыць артыклу нумар 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Усе паведамленні, у тым ліку и гукавыя, якія не датычацца да бяспекі пассажырау, у Мінскім метрапалітэне афармлены на беларускай мове.

Станцыя метрапалітэна «Ракауская», якая будуецца, перайменавана у станцыю «Спартыуная» Рашэннем Мінскага гарадскога выканаучага камітэта № 864 ад 05.06.2003 года.

Мінскім гарадскім выканаучым камітэтам не прымауся адпаведны нарматыуны дакумент аб перайменаванні станцыі метрапалітэна «Плошча Леніна» у станцыю «Плошча Незалежнасці».

Начальнік
УП «Мінскі метрапалітэн» Н.Т.Андрэеу

**Спадару Н.Т.Андрэеву**
**Начальніку УП "Менскі метрапалітэн"**
**220050, г. Менск, пр. Ф. Скарыны, 6**

Копія:
**Старшыні Менскага гарадскога выканаўчага камітэта**
**Міхаілу Якаўлевічу Паўлаву**
**220050, г. Менск, пр. Скарыны, 8**

**Паважаны спадар Андрэеў!**

Удзячны Вам за ўвагу да маёй думкі наконт працы менскага метрапалітэна. Але, разам з тым катэгарычна не пагаджаюся з Вашым лістом № 1390 ад 18 верасня 2003 года.

Рэч у тым, што ў Вашым лісце ўтрымліваюцца непраўдзівыя звесткі. Так, згодна з афіцыйнымі дадзенымі Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь 61,9% жыхароў г. Менска лічаць сваёй роднай мовай беларускую. Пытанне пра тое, якой мовай карыстаюцца менчукі ў якасці мовы зносін падчас перапісу насельніцтва 1999 года не высвятлялася. Жыхары Менска толькі адказалі на пытанне, на якой мове яны **звычайна размаўляюць дома**. Таму Вашае сцвярджанне, што "большасць жыхароў г. Менска лічаць сваёй роднай мовай і карыстаюцца ў якасці мовы зносін рускую мову" не адпавядае рэчаіснасці і ўводзіць у зман. Спадзяюся, што непраўдзівыя звесткі ў Вашым лісце прыведзены ненаўмысна, а па прыкрым недаглядзе супрацоўнікаў УП "Менскі метрапалітэн", у адваротным выпадку Вы даеце падставы для судовага разбіральніцтва.

Таксама зазначу, што паслугамі Менскага метрапалітэна карыстаюцца не толькі жыхары г. Менска, Рэспублікі Беларусь і госці бліжняга замежжа, але і нашы суайчыннікі з усяго свету. Для многіх з іх руская мова незразумелая, як і для карэнных жыхароў Беларусі, якія з шэрагу прычынаў не валодаюць рускай мовай, а толькі **дзяржаўнай** беларускай мовай.

Выклікае здзіўленне і тое, што паведамленні на станцыях метрапалітэна, якія датычацца **бяспекі пасажыраў**, агучваюцца выключна на рускай мове. Складваецца ўражанне, што УП "Менскі метрапалітэн" не дбае пра бяспеку беларускамоўных пасажыраў і клапоціцца бяспекай толькі прадстаўнікоў рускамоўнай супольнасці г. Менска. Таксама звяртаю Вашу ўвагу як кіраўніка **дзяржаўнага** прадпрыемства на артыкул 14 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у якім сказана: "**Дзяржава** рэгулюе адносіны паміж сацыяльнымі, нацыянальнымі і іншымі супольнасцямі на аснове **прынцыпаў роўнасці** перад законам, **павагі іх правоў і інтарэсаў**". У працы ж УП "Менскі метрапалітэн" парушаецца прынцып роўнасці, няма павагі да законных правоў і інтарэсаў прадстаўнікоў беларускамоўнай супольнасці. Пра гэта сведчыць і тое, што ўсе інфармцыйныя надпісы на станцыях метрапалітэна зараз афармлены толькі на рускай мове.

Вельмі засмучае і той факт, што кіраўніцтвам УП "Менскі метрапалітэн" цалкам ігнаруецца грамадская думка накот раптоўнага змянення назвы станцыі "Плошча Незалежнасці" на старую — "Плошча Леніна". Пэўна Вам вядомыя факты, што ў пераважнай большасці вагонаў метро на новых інфармацыйных плакатах закрэслена слова Леніна (дарэчы я не падрымліваю тых незычлівцаў, якія псуюць плакаты). Мне незразумелая логіка тых, хто пасля стольскіх гадоў вярнуў гэтую недарэчную назву, якая не прывязана ні да тапанімікі Менска (такая плошча проста адсутнічае на карце Менска), ні да гістарычных і палітычных рэаліяў. Тым больш, што згодна з рашэннем Менгарвыканкама (паводле публікацыі газеты "Комсомольская правда в Белоруссии") была выдаткавана пэўная сума на змяненне надпісаў на станцыі "Плошча Леніна" на "Плошчу Незалежнасці". Не хочацца думаць, што гэтыя грошы былі выкарыстаныя кіраўніцтвам метрапалітэна нямэтава.

Паважаны спадар Андрэеў, прашу Вас прыслухацца да грамадскай думкі жыхароў беларускай сталіцы, якія абураныя пераназваннем "Плошчы Незалежнасці" і зрабіць усе паслугі Менскага метрапалітэна даступнымі і для беларускамоўных грамадзян, аформіць інфармацыйныя надпісы на станцыях, пераагучыць інфармцыйныя паведамленні, якія тычацца бяспекі руху, у тым ліку і на дзяржаўнай беларускай мове.

**З павагай** **Сяргей Кручкоў.**
24 верасня 2003 г.

# МІЖНАРОДНЫ ГУМАНІТАРНЫ ІНСТЫТУТ БДУ ПЛАНУЕЦЦА ПЕРАЎТВАРЫЦЬ У ФАКУЛЬТЭТ ГУМАНІТАРНЫХ НАВУК І МАСТАЦТВАЎ

У хуткім часе Міжнародны гуманітарны інстытут (МГІ) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта можа быць пераўтвораны ў факультэт гуманітарных навук і мастацтваў.

Як паведаміў БелаПАН намеснік дырэктара МГІ Ігар Духан, рашэнне аб рэструктурызацыі інстытута было прынята 23 верасня падчас пасяджэння вучонага савета Белдзяржуніверсітэта па ўзгадненні з Міністэрствам адукацыі.

Рашэнне аб закрыцці інстытута, зазначыў прадстаўнік МГІ, "выклікала бурную рэакцыю ў сусветных акадэмічных колах". Так, лісты пратэсту супраць такога рашэння былі накіраваны ў Міністэрства адукацыі і Савет міністраў Беларусі ад Расійскай акадэміі навук, Іерусалімскага ўніверсітэта, вышэйшых навучальных установаў ЗША і Заходняй Еўропы. Намеснік дырэктара МГІ падкрэсліў, што "трэба чакаць такса асаблiва балючую рэакцыю з боку сусветнай яўрэйскай дыяспары, для якой развіццё іудаікі ў МГІ ў многім сфармавала станоўчы вобраз Беларусі, як талерантнай краіны, што адмовілася ад практыкі дзяржаўнага антысемітызму".

Цяпер, паведаміў І. Духан, дакумент аб пераўтварэнні Інстытута знаходзіцца ў Міністэрстве адукацыі, і канчатковага рашэння па гэтым пытанні пакуль няма. Такім чынам, паводле яго слоў, у адпаведнасці з рашэннем Вучонага савета БДУ, да стварэння факультэта, МГІ будзе працягваць навучальны працэс.

"Сітуацыя напружаная, бо ў нас рэалізуецца шэраг міжнародных праграм з Германіяй, Вялікабрытаніяй, Францыяй, ЗША, Расіяй, Ізраілем, Польшчай, — зазначыў Ігар Духан. — Нам хацелася б займацца нармальнай акадэмічнай працай, што павінна быць у інтарэсах Беларусі".

Міжнародны гуманітарны інстытут БДУ быў створаны ў 1999 годзе ў выніку супрацоўніцтва Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта з амерыканскім дабрачынным фондам "Джойнт", універсітэтамі, а таксама грамадскімі арганізацыямі Расіі, ЗША і Ізраіля. Найважнейшым партнёрам Інстытута выступае Іерусалімскі Яўрэйскі універсітэт. Цяпер Інстытут супрацоўнічае з універсітэтамі і адукацыйнымі цэнтрамі Расіі, ЗША, Ізраіля, Германіі, Вялікабрытаніі, Польшчы і Італіі.

На сённяшні дзень у Інстытуце вучацца каля 500 студэнтаў па спецыяльнасцях "Замежная мова", "Дызайн", "Архітэктура", "Культуралогія" і "Маркетынг". Адкрытыя чатыры кафедры: сучасных замежных моў, мастацтваў, эканомікі і сацыяльных навук, іудаікі.

*Вольга АСІПЕНКА, БелаПАН.*

## У ГОМЕЛЬ ПРЫЙШОЎ ЧАРГОВЫ ГУМАНІТАРНЫ ГРУЗ З КАНАДЫ НА СУМУ 1 МІЛЬЁН ДОЛАРАЎ ЗША

29 верасня ў Гомель пры садзейнічанні грамадскай арганізацыі "Беларускі саюз жанчын" прыйшоў гуманітарны груз з Канады. Яго адпраўнік — канадская дабрачынная арганізацыя "Дапамога ахвярам Чарнобыля".

Груз ацэньваецца амаль у 1 мільён долараў ЗША. Дастаўленыя медыкаменты і сродкі гігіены прызначаны для цэнтра радыяцыйнай медыцыны ў Гомелі.

Гэта ўжо 62-і канвой гуманітарнай дапамогі, пастаўлены канадскай арганізацыяй "Дапамога ахвярам Чарнобыля" ў Беларусь.

*Алена КАЛАЧОВА, БелаПАН.*

# Варварства ў Лідзе



На мінулым тыдні ў Лідзе надарылася падзея, якая не пакінула абыякавымі ні ўладу, ні грамадскасць. Да паўночнай сцяны Лідскага замка падышоў экскаватар і без усякіх сумненняў пракапаў траншэю ў абвалоўцы, былі пракладзеныя тры кабелі, і траншэю засыпалі.

Званкі ў Гродню ў Таварыства аховы помнікаў, як кажуць, злёгку прыпазніліся. Справа была зроблена.

Сёння не важна, хто даў загад, з кім узгаднялі, каго і на колькі аштрафуюць. Важна, як і калі гэта зроблена. Зроблен звычайна і абыякава і зроблена праз нейкі тыдзень пасля разгляду Лідскім гарвыканкамам пытання "Аб захаванні гістарычнай спадчыны".

Так чыноўнік сярэдняй рукі прадэманстраваў сваё адносіны і да спадчыны і да ўлады. Адзін экскаватар, і вось вам увесь культурны пласт.

Газета не суддзя, мы не можам назваць гэтыя дзеянні юрыдычным тэрмінам "злачынства", але вандалізмам і варварства можам.

*Яраслаў Грынкевіч.*

## Адказы на крыжаванку на ст. 12.

**Па гарызанталях:** 2. Пражанина. 6. Кроп. 7. Кубак. 9. Вунь. 10. Келих. 11. Абрус. 12. Ражка. 13. Саган. 15 Вожык. 18. Воцат. 20. Асадка. 21. Арляня. 22. Кныш. 23. Асца. 25. Кут. 28. Міт. 29 Рыдван. 30. Росшук. 31. Ярына.

**Па вертыкалях:** 1. Паабсмажыць. 2. Попел. 3. Адвар. 4. Пракуда. 5. Зносіны. 7. Кухар. 8. Крама. 13. Стаўбур. 14. Грак. 16. Жняя. 17. Кіяшнік. 18. Варыўня. 19. Тайстра. 22. Кава. 24. Аўсы. 26. Тын. 27. Крыж. 28. Мур.





# Ласка дыктатара або палітыка беларусізацыі войска

Беларускія вайсковыя фармаванні ў складзе Чырвонай Арміі былі створаны ў гады грамадзянскай вайны ў Расіі. Пераход Узброеных Сіл РСФСР на мірнае становішча адкрыў новыя магчымасці для развіцця нацыянальных фармаванняў.

Важныя рашэнні былі прыняты на XII з'ездзе РКП(б). Так, 25 красавіка 1923 г. адбылося паседжанне секцыі з'езда па нацыянальным пытанні. На паседжанні секцыі асабіста прысутнічаў Генеральны сакратар ЦК РКП(б) І. В. Сталін, які падтрымаў ідэю стварэння нацыянальных частак: "Да прапановы тав.Троцкага я ўношу папраўненне, каб пачаць фармаванне нацыянальных частак – грузінскіх, армянскіх, азербайджанскіх, украінскіх і г. д. Нельга, аднак, спяшацца так, як было ў Грузіі, але пачаць гэту справу паступова і падсекчы аснову незадавальнення ў рэспубліках, якое там маецца, вывеўшы нашы войскі. Першае патрабаванне самавызначэння – гэта вывад войскаў. Зараз мы сабе гэтай раскошы дазволіць не можам. Вось у чым бяда. Калі вывесці войскі з Украіны, туды ўвойдуць спачатку бандачкі напаўукраіскія, напаўпольскія, затым яны пачнуць узбуйняцца і самі ж украінцы запатрабуюць увесці рускія войскі, інакш іх задушаць".

Але словы Сталіна зусім не азначаюць, што ён на самой справе з'яўляўся прыхільнікам стварэння нацыянальных частак і вывады рускага войска. Факты сведчаць пра адваротнае. Яшчэ ў чэрвені 1917 года на Першай Усерасійскай канферэнцыі вайсковых арганізацый у сваім дакладзе пад назвай "Нацыянальны рух і нацыянальныя палкі" Сталін выказваўся супраць стварэння нацыянальных палкоў. Пазней, у прамове на нарадзе па скліканні Устаноўчага сходу Татара-Башкірскай Савецкай Рэспублікі, ён называе такую ідэю "чыста нацыяналістычнай", пабудаваную на грунце "нацыянальных саветаў" і "нацыянальных палкоў". А ў тэлеграме з-пад Менска У. Леніну (ліпень 1919 г) Сталін дакладвае пра дрэннае становішча фронту паміж Менскам-Дзвінскам-Лубянцом і ўказвае на неабходнасць замяніць нацыянальныя часткі (гл. Директивы Главного командования Красной Армии (1917-1920). М., 1969. С. 384.). Хутчэй за ўсё, ён меў на ўвазе часткі былой Беларуска-Літоўскай арміі (9 чэрвеня 1919 г. атрымала назву 16-я армія).

У святле прыведзеных фактаў, падтрымка на XII з'ездзе Генеральным сакратаром ЦК РКП(б) ідэі стварэння нацыянальных частак выглядае як часовая саступка народнаму камісару па вайсковых і марскіх справах Л. Троцкаму і прадстаўнікам нацыянальных рэспублік і абласцей. Пайсці на такі крок Генсека вымусіла рэзкая крытыка яго дзеянняў У. Леніным. Сам У. Ленін быў паралізаваны і ўдзелу ў рабоце з'езда не прымаў. Затое на з'ездзе была агучана яго работа "Да пытання аб нацыянальнасцях і аб "аўтанамізацыі". Работа была прадыктавана Леніным 30 снежня 1922 г., г. зн. у дзень утварэння ССР. У ёй выкрывалася сталінская вялікадзяржаўніцкая палітыка ў адносінах да саюзных рэспублік. У. Ленін сцвярджаў, што Сталін пры стварэнні СССР выступаў у ролі праваднiка інтарэсаў дзяржапарату, а не волі рабочага класа. Таксама Ленін заклікаў прыцягнуць да адказнасці Арджанікідзэ, Сталіна і Дзяржынскага ў сувязі з "грузінскай справай" Тут меўся на ўвазе канфлікт паміж Закрайкамам на чале з Арджанікідзэ, які кантраляваў дзейнасць нацыянальных кампартый закаўказкай федэрацыі, і ЦК Кампартыі Грузіі. Прычынай канфлікту паслужыла імкненне грузінскіх камуністаў вывесці Грузію са складу Закаўказкай федэрацыі, каб на правах самастойнай рэспублікі заключыць дамову аб утварэнні СССР. Але для Сталіна і Арджанікідзэ Закаўказкая федэрацыя з'яўлялася маленькай мадэллю будучага Саюза. Таму, у парушэнне правоў грузінскага народа, ЦК КП Грузіі было адмоўлена ў выхадзе з Закаўказкай федэрацыі. Рашэнне было афармлена на кастрычніцкім (1922г.) Пленуме ЦК РКП(б). Аднак спрэчкі працягваліся. Атмасфера настолькі накалілася, што Арджанікідзэ нават ляснуў па твары свайго апанента Кабахідзэ, які назваў яго "сталінскім ішаком" Для разгляду канфлікту была створана камісія на чале з Дзяржынскім, якая праводзіла прасталінскую палітыку.

Работа Леніна выклікала шырокі рэзананс сярод дэлегатаў саюзных рэспублік. Імкнучыя выправіць няёмкае становішча для сябе, Генсек дазволіў стварэнне нацыянальных частак.

Практычныя мерапрыемствы па стварэнні нацыянальных частак былі выпрацаваны на чацвёртай нарадзе ЦК РКП(б) з адказнымі работнікамі нацыянальных рэспублік і абласцей (9-12 чэрвеня 1923 года). Згодна рашэнню нарады, на Украіне і ў Беларусі планавалася стварыць па адной міліцыйнай дывізіі. Асаблівасцю тэрытарыяльна-міліцыйных частак было тое, што яны камплектаваліся, як кадравым, так і пераменным складам. У такіх частках увесь старэйшы, адміністрацыйна-гаспадарчы, медыцынскі і ветэрынарны склад, 16-20 поцэнтаў сярэдняга і малодшага камандзірскага і палітычнага складу складалі кадравікі. А ўжо да поўнага штату тэрытарыяльныя часткі камплектаваліся пераменнікамі з насельніцтва раёнаў дыслакацыі. Пераменнікі праходзілі вайсковую службу падчас караткатэрміновых збораў на працягу пяці год У першы год службы яны браліся на тры месяцы, а затым – штогод на месяц. Нацыянальныя кадравыя часткі не планавалася ствараць, бо яны ўяўлялі сабой рэальную баявую сілу і таму неслі пагрозу для адміністрацыйна-каманднай сістэмы.

8 жніўня 1923 года ЦВК і СНК СССР выдалі дэкрэт "Аб арганізацыі тэрытарыяльных вайсковых частак і правядзенні ваеннай падрыхтоўкі працоўных" Адразу ў Беларускай вайсковай акрузе (БЕЛВА) распачаліся мерапрыемствы па стварэнні тэрытарыяльна-міліцыйнай дывізіі. Такая дывізія ў рэшце рэшт была створана на базе 2-й Тульскай стралковай дывізіі і атрымала яна назву 2-я Беларуская стралковая дывізія. Камандзірам і камісарам дывізіі быў назначаны легендарны герой грамадзянскай вайны, першы кавалер чатырох ардэнаў Чырвонага Сцяга (вышэйшай па тым часе ўзнагароды) Ян Францавіч Фабрыцыус. Камдыў высока ўзняў аўтарытэт і значнасць 2-й Беларускай. 10 верасня 1923 г. пачаўся першы вучэбны збор пераменнага складу гэтага фармавання. Праз два тыдні навабранцы прынялі вайсковую прысягу. На святочнае мерапрыемства прыбыў камандуючы акругай А. Э. Корк і ўручыў дывізіі Чырвоны штандар. Фактычна гэты акт і паклаў адлік гісторыі стварэння беларускіх тэрытарыяльна-міліцыйных частак у складзе РСЧА.

Новы імпульс працэсу стварэння беларускіх тэрчастак быў нададзены 24 сакавіка 1924 г., калі кіраўніцтва Рэўваенсавету СССР на чале зд М. Фрунзе канчаткова зацвердзіла план нацыянальнага будаўніцтва ў Чырвонай Арміі. Адзін з яго пунктаў абвяшчаў: "Украінцы, беларусы, татары, башкіры, народы Закаўказзя і іншыя, якія раней прыцягваліся да вайсковай службы і таму больш падрыхтаваныя да яе, тэрмінова фармуюцца ў нацыянальныя часткі, памеры якіх залежаць ад наяўнасці ўласнага камандна-палітычнага складу".

У цэлым па акрузе на тэрытарыяльны прынцып камплектавання былі пераведзены 27-я Ошская, 29-я Вяцкая, 33-я Самарская і 64-я стралковыя дывізіі. З пералічаных тэрчастак нацыянальнымі павінны былі стаць часткі, размешчаныя на тэрыторыі БССР. А вось тэрчасткі Смаленскай вобласці РСФСР (тылавы тэатр БЕЛВА) нацыянальнымі ніколі не з'яўляліся і палітыка беларусізацыі ў іх не ажыццяўлялася. Яны ствараліся чыста па эканамічных, а не палітычных матывах. Такія часткі дазвалялі краіне накіроўваць значную частку насельніцтва на ўзнаўленне народнай гаспадаркі і ў той жа час забяспечвалі навучаннем вайсковай справе ўвесь наборны кантынгент.

На сучасны момант дакладна вядома, што беларусізацыя праводзілася ў двух тэрытарыяльных фармаваннях: 2-й беларускай стралковай дывізіі і 33-й Самарскай дывізіі (у 1930,. атрымала назву таксама Беларускай). Інфармацыя пра беларусізацыю іншых дывізій адсутнічае. Гэта дазваляе зрабіць выснову, што з 23 злучэнняў БЕЛВА (17 стралковых, 5 кавалерыйскіх, 1 дэсантная) нацыянальнымі былі ўжо дзве дывізіі.

Разам з тым, складанасцяў з правядзеннем беларусізацыі хапала. Адсутнічала распрацаваная вайсковая тэрміналогія для беларускіх частак, адсутнічалі статуты на беларускай мове, не хапала падручнікаў і г. д. Да таго ж, з хуткім новым наборам у часткі трапляла вялікая колькасць непісьменных.

Нават у 1936 годзе камандзюучы БЕЛВА Е. Убарэвіч на нарадзе Заходняга абкама камсамолу прызнаваў наяўнасць такой праблемы: "... Кожны набор байцоў з вёскі прыносіць нам у казармы 35% малапісьменных на сотню. Аднак гэтыя малапісьменныя – на справе людзі зусім непісьменныя, гэта людзі, якія ледзь-ледзь напішуць прозвішча і ў гадзіну прачытаюць дзве старонкі. Гэта людзі, якія не ведаюць, хто такі Сталін, хто такі Гітлер, дзе Захад, дзе Усход, што такое сацыялізм. А ў арміі мы пакутуем, месяцамі навучаем пісьменству. У нас ёсць інжынеры, тэхнікі, якія не ведаюць, пад якім соўсам ядуць тэрмадынаміку, не ведаюць дробаў, таму што ў сярэдняй школе чорт ведае што тварылася" (Военно-ист. журнал. 1988, №10. С.42).

На сярэдзіну 20-ых гг. правядзенне беларусізацыі ўскладнялася адсутнасцю належных клопатаў з боку вышэйшых вайсковых устаноў. Праўда, іх таксама можна зразумець. Паводле перапісу 1925 г. у Чырвонай арміі служылі прадстаўнікі 109 розных нацыянальнасцяў, таму працы ў іх было шмат. У 1925-1926 гг. асноўная ўвага з боку вышэйшых вайсковых устаноў была скіравана на стварэнне частак і злучэнняў у рэспубліках Сярэдняй Азіі і Паволжжа. Пад іх наглядам фармаваліся стралковыя і кавалерыйскія дывізіі ва Узбекскай ССР, па адной кавалерыйскай дывізіі – у Туркменскай ССР і Казахскай АССР, па аднаму кавпалку – у Таджыкскай АССР і Кіргізкай аўтаномнай вобласці. Адначасова у нацыянальных аўтаномных рэспубліках Расійскай Федэрацыі ствараліся: стралковы полк – у Якуцкай АССР, кавполк – у Бурат-Мангольскай АССР, па адной стралковай дывізіі з кавпалком – у Татарскай і Башкірскай АССР (гл. "Советские Вооруженные Силы. История строительства" М., 1978. С. 154).

Пры такіх варунках увесь цяжар па беларусізацыі нацыянальных частак быў ускладзены на беларускія партыйныя і выканаўчыя органы ўлады. Для каардынацыі дзеянняў у галіне беларусізацыі пры ЦВК БССР была створана спецыяльная камісія па ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі (т. зв. Нацкамісія) на чале з вядомым грамадскім дзеячам А. Хацкевічам. Камісія складалася з дзевяці сяброў і аднаго адказнага сакратара. Яе паседжанні адбываліся не радзей аднаго разу ў месяц. Пастановы камісіі па пытаннях, уваходзячых у яе кампетэнцыю, павінны былі неадкладна выконвацца ўсімі шстановамі і арганізацыямі.

3 красавіка 1926 года на паседжанні Нацкамісіі ЦВК БССР быў заслуханы даклад старшага інспектара ПУРа. т. Холадава аб ажыццяўленні нацпалітыкі ў абследаваных ім частках. У дакладзе адзначалася, што сярод кампалітскладу 2-й Беларускай дывізіі адбыўся псіхалагічны пералом у адносінах да справы беларусізацыі. Кампалітсклад дывізіі нарэшце ўсвядоміў неабходнасць сур'ёзнага стаўлення да справы беларусізацыі... Вывучэнне беларускай мовы было ўведзена ў праграму заняткаў дывізіі. Вялікую дапамогу для наладжвання заняткаў па беларускай мове аказваў шэф дывізіі – Саюз Працасветы. Ён пасылаў студэнтаў Педтэхнікума кіраўнікамі па вывучэнні беларускай мовы, бо ў дывізіі на ўтрыманне настаўнікаў адсутнічалі сродкі. Уся перапіска ў штабе дывізіі і ў палках была пераведзена на беларускую мову, у нізавых ячэйках – толькі часткова. Важным дасягненнем было і тое, што беларуская мова пакрысе пачынала ўжывацца вайскоўцамі і ў паўсядзённым побыце.

Свае меркаванні пасля дакладу выказалі Воласнаў, Іўдзінаў, Баніцкі і Гесан. Сярод недахопаў у правядзенні палітыкі беларусізацыі імі было ўказана: адсутнасць у вайсковых частках беларускага лемантара; недахоп падручнікаў, на выданне якіх патрабавалася 42.000 рублёў, а выдаткоўвалася ўсяго 10000, адсутнасць належных сувязяў дывізіі з цывільнымі ўстановамі; на выкарыстанне досведу беларусізацыі Наркамасветы і Палітасветы.

31 жніўня 1926 года на паседжанні Нацкамісіі быў заслуханы "Асноўны план беларуізацыі 2-й Беларускай дывізіі з 1926 па 1928 г. уключна", складзены камандзірам дывізіі Лакціёнавым і камісарам дывізіі Гудзінавым. На пачатку плана прыводзілася цікавая статыстыка пра колькасць беларусаў сярод розных груп начскладу:

*Камскладу – 36,3%*
*Адмгаспскладу – 39,1%*
*Палітскладу – 65,5%*
*Медскладу –12%*
*Ветскладу – 20%*

Паводле думкі камандавання дывізіі, для правядзення суцэльнай беларусізацыі 2-й стралецкай дывізіі такі працэнт беларусаў сярод начскладу з'яўляўся недастатковым. Ён павінен быў дасягаць не менш 75%

У плане прапаноўваліся канкрэтныя мерапрыемствы для вырашэння пытання.

Затое сярод малодшага камандзірскага і адміністрацыйнага, а таксама шараговага складу беларусы складалі 71%. Пасля правядзення набору 1926 г. гэты паказчык планавалася павялічыць да 90%.

Вялікае практычнае значэнне для паскоранай беларусізацыі дывізіі меў шосты пункт плана пад назвай "Парадак вывучэння беларускай мовы". Галоўнае месца тут адводзілася праверцы старшага і сярэдняга камскладу на прадмет валодання беларускай мовай. Праверку планавалася правесці адразу па сканчэнні лагернага збору ў 1926 годзе.

На аснове вынікаў праверкі, увесь камсклад разбіваўся на тры групы па вывучэнні беларускай мовы. Першая група найбольш падрыхтаваных камандзіраў павінна была скончыць навучанне да 1 студзеня 1927 года, другая група- да траўня 1927 года, трэцяя група – да кастрычніка 1927 года. Малодшы камсклад планавалася навучыць беларускай мове праз сістэму падрыхтоўкі ў палкавых школах. На працягу 1 летняга перыяду 1926 г. у дывізіі павінны былі прайсці падрыхтоўку кадры групавода ді памагатых настаўнікаў для правядзення палітзаняткаў на беларускай мове або работы па ліквідацыі непісменнасці сярод навабранцаў.





# Ласка дыктатара або палітыка беларусізацыі войска

У плане таксама прадугледжвалася папулярызацыя нацыянальнай дывізіі сярод беларускага насельніцтва. Для гэтага прапаноўвалася праодзіць работу:

А) праз перыядычны друк;

Б) праз сістэму тэрбудаўніцтва (сярод дабранцаў, пераменнікаў);

В) па лініі "садружнасці і шэфства";

Г) праз прыцягненне працоўнага насельніцтва да ўдзелу ў розных мерапрыемствах дывізіі (рэвалюцыйныя святы, зборы, манеўры і г. д.).

У дадатак планавалася выдаць папулярную гісторыю дывізіі і распаўсюдзіць яе сярод насельніцтва.

Нацкамісія ЦВК БССР прызнала задавальняльным асноўны план беларусізацыі дывізіі, выпрацаваны яе камандаваннем, цалкам пагадзілася з вызначанымі ў гэтым плане тэрмінамі беларусізацыі па асобных галінах работы, а таксама і з канчатковым тэрмінам (з восені 1928 г. уся шыхтовая і палітпрасветработа з наборам чырвонаармейцаў 1906 г. нараджэння павінна была перайсці на беларускую мову). Таксама сябрамі быў выпрацаваны шэраг сваіх прапаноў:

1. Увесці аднаго прадстаўніка дывізіі ў склад Цэнтральнай Нацкамісіі (камдыў-ваенкамдыў тав. Лакціёнаў);

2. У склад акруговых нацкамісій (Барысаўскай і Менскай) увялі камісараў палкоў з правам пастаноўчага голасу;

3.Перыядычна склікаць нарады ўсіх зацікаўленых устаноў для вырашэння форм сувязі і дапамогі ў справе беларусізацыі дывізіі;

4.Паскорыць выданне на беларускай мове ўсіх вайскова-палітычных падручнікаў, намечаных планам, у прыватнасці, хрэстаматыі для чырвонаармейцаў і падручнікаў для палітікіраўнікоў і груповодаў;

5. Для паскарэння працэсу друкаваць усю літаратуру (падручнікі, вучэбныя дапаможнікі і г. д.) толькі ў Менску;

6. Узняць пытанне перад вайсковымі органамі пра належнае асігнаванне палітыкі беларусізацыі ў дывізіі;

7. Прасіць урад рэспублікі выдзеліць сродкі для ажыццяўлення плана беларусізацыі 2-й Беларускай дывізіі;

8. Узмацніць работу па растлумачэнні сярод кампалітскладу і чырвонаармейцаў сутнасці і прынцыпаў нацпалітыкі савецкай улады і кампартыі.

X з'езд КПБ (3-10 снежня 1927 г. ) падтрымаў мерапрыемствы па беларусізацыі арміі і пастанавіў: "Надаючы вялікае палітычнае значэнне нацыянальнаму пытанню ў частках БЕЛВА, асабліва пры ўмове тэрытарыяльнага камплектавання, неабходна надаць пільную ўвагу выхаваўчай працы і паляпшэнню беларусізацыі ў тэрытарыяльных частках"

Як вынік, беларусізацыя 2-й стр. дывізіі праходзіла шпаркімі тэмпамі. Да 1929 г. уся работа па навучанню і выхаванню байцоў дывізіі была пераведзена на беларускую мову. Былі выдадзены ўсе асноўныя навучальныя дапаможнікі (статуты, падручнікі) на беларускай мове. Беларуская літаратура складала асноўную масу бібліятэчных фондаў частак дывізіі.

Пасля такіх поспехаў у галіне беларусізацыі 2-й Беларускай, увага партыйных і рэспубліканскіх органаў улады пераключаецца на ажыццяўленне беарусізацыі 33-й стралковай дывізіі: Праз кароткі прамежак часу тут таксама былі атрыманы станоўчыя вынікі. Пачынаючы з 1931 г. уся партыйна-палітычная работа ў 33-й дывізіі была пераведзена на беларускую мову. У дывізіі паступова былі выхаваны нацыянальныя кадры сярод старшага, сярэдняга і малодшага начальніцккага складу. Напачатку 1934 года каля 40% старшага і сярэдняга начскладу ў 33-й Беларускай дывізіі складалі беларусы, 93% беларусаў налічвалася сярод малодшага начальніцкага складу. Начальніцкі склад іншых нацыянальнасцяў упарта аваладваў беларускай мовай.

Дзякуючы беларускім тэрдывізіям была палегчана служба асноўнай масе жыхароў рэспублікі. Трэба заўважыць, што з 4,5 млн. насельніцтва БССР на 1 студзеня 1930 г. беларусы складалі звыш 80%, рускія - 11%, палякі - 2% ад усяго насельніцтва (НАРБ, ф.6., воп.1., спр. 2837, арк. 44)

Вялікую дапамогу ў падрыхтоўцы камандзірскіх кадраў для нацыянальных тэрдывізій аказвала 7-я Аб'яднаная Беларуская вайсковая школа імя ЦВК БССР (скарочана АБВШ). Аб'яднанай школа называлася таму, што ў ёй рыхтавалі камандзіраў трох спецыяльнасцяў: раздзелу - у пяхоту, эскадрону - у кавалерыю, батарэі - у артылерыю. Са сцен АБВШ выйшлі вядомыя савецкія военачальнікі: маршал І. Якубоўскі, генералы арміі У. Маргелаў і У. Пянькоўскі, генерал-лейтэнанты Р. Вайнруб і Р. Баталаў і іншыя.

У розныя гады начальнікамі школы былі Л. Клаўзе (1921-1922), Я. Фабрыцыус (1022-1923), Ж. Лаўр (1924), П. Валасноў (1927), Э. Васілевіч (1929-1932), Кобленц (1932-1933), Я. Алёхін (1933-1938), Пузікаў (1940-1941).

Не засталіся абыякавымі да праблем беларусізацыі войска і беларускія навукоўцы. Яны прынялі ўдзел у распрацоўцы беларускай вайсковай тэрміналогіі. У 1927 г. у Менску была выдадзена першая частка "Практычнага беларускага вайсковага слоўніка" Байкова і Бараноўскага. Слоўнік увабраў у сябе матэрыялы, апрацаваныя Вайсковай камісіяй Інбелкульта, таксама беларускую навуковую тэрміналогію з перыядычных выданняў таго ж Інбелкульта, матэрыялы "Словаря белорусского наречия" Насовіча, "Практычнага расійска-беларускага слоўніка" М. Байкова і М. Гарэцкага. Слоўнік налічваў каля дзесяці тысяч слоў і ўстойлівых словаспалучэнняў трох функцыянальных груп. Сімвалічна, што сярод іншых навукоўцаў у працы па стварэнні слоўніка прыняў удзел сам Янка Купала.

Дзякуючы распрацоўцы тэрміналогіі, ажывілася выданне вайсковай літаратуры на беларускай мове. Напрыклад, у першым нумары "Бюлетэня выдавецтва БЕЛВА" (1934 г.) прыводзіцца спіс выдадзенай літаратуры з 1 студзеня па 1 жніўня Са спісу вынікае, што амаль уся літаратура выдавалася менавіта на беларускай мове. Не адстаў ад выдавецтва БЕЛВА вайсковы сектар Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі, што да 1935 г. надрукаваў 418 выданняў кніг і брашур, прычым на расійскай мове - толькі 8.

Сапраўдным дасягненнем на той час стала стварэнне беларускай вайсковай газеты "Чырвонаармейская праўда" (першы выпуск газеты выйшаў у свет 1 студзеня 1929 г.) М. Крашапольскі сведчыць: "З'явіўся двайнік " Красноармейской правды на селе" - газета "Чырвонаармейская праўда" на беларускай мове. Яна была звычайным перакладам "Красноармейской правды на селе" Матэрыялы агульнага характару, ваенкораўскія карэспандэнцыі і нататкі. Тэрытарыяльных дывізій у нас было дзве: 2-я Беларуская (нацыянальная) і 64-я, якая камплектавалася жыхарамі Смаленскай вобласці (гады яна называлася Заходняй). Насельніцтва заходняй часткі гэтай вобласці гутарыла на своеасаблівай сумесі рускай мовы з беларускай. Умовы жыцця вельмі падобныя, смалянe з цікавасцю чыталі ў газеце пра тое, што адбываецца ў Беларусі, а беларусы - пра жыццё Смаленшчыны. Выпуск "Чырвонаармейскай праўды" палегчыў працу з пераменнікамі беларускай нацыянальнай дывізіі: Байцы-беларусы, камандзіры-беларусы атрымалі газету на роднай мове, абменьваліся праз яе думкамі так, як прызвычаіліся размаўляць з нараджэння: "Чырвонаармейскую праўду" выпісвалі і ў іншых дывізіях, дзе служылі беларусы. ("Во славу Родины" - 1996, 30 траўня)

Палітыка беларусізацыі з'яднала армію і беларускае грамадства. Так, беларускія паэты прысвячалі арміі свае вершы, цывільныя ўстановы ахвяроўвалі сродкі на м. тэхнічнае пераўзбраенне. Газеты пісалі, што армія - гэта любімае дзіця народа

На гэтым беларусізацыя не вычарпала свайго рэзерву. У яе была магчымасць развівацца і надалей. Але сталінскія сатрапы вырашчылі пытанне пасвойму. Ім непатрэбна была народная армія. Ва ўмовах правядзення гвалтоўнай калектывізацыі такая армія лёгка можа выйсці з-пад кантролю наменклатуры. Таму Масква прыкладае ўсе сілы, каб спыніць працэс беларусізацыі войска. Напрыканцы 20-ых гг. у праэсе былі інспіраваны першыя нападкі на праявы т. зв. нацыянал-дэмакратызму падчас правядзення палітыкі беларусізацыі.

У траўні 1929 г. у Беларусь была накіравана Цэнтральная Кантрольная Камісія (ЦКК) Кампартыі Украіны на чале з У. П. Затоньскім з мэтай "выкрыцця" практыкі правядзення нацыянальнай палітыкі ў БССР. Камісія цалкам раскрытыкавала правядзенне нацпалітыкі ў БССР і засведчыла наяўнасць ухілаў. Пад ухіламі ў тыя гады разумелася ўсё варожае, антысавецкае.

У нацыянальным пытанні ўхіламі называлія вялікадзяржаўны шавінізм, антысемітызм, беларускі "контррэвалюцыйны" нацыянал-дэмакратызм і нацыянал-апартунізм. Тэарэтычная база пад контррэвалюцыйную сутнасць нацыянал-дэмакратызму падводзілася ў брашуры А. Сталевіча "Беларускі нацыянал-фашызм. Яго вытокі, тэорыя, практыка" (Мн., 1930). У ёй беларускі нацыянал-дэмакратызм паказаны як палітычная плынь, што варожа ставіцца да ўсяго савецкага. А. Сталевіч выстаўляе беларускіх нацдэмаў агентурай польскага фашызму, якія праводзяць таемную работу па падрыхтоўцы нападу польскага імперыялзму (Знаёмая сітуацыя, ці не праўда?) Таксама аўтар брашуры абвінавачвае нацдэмаў у тым, што яны абараняюць буржуазныя элементы на вёсцы і падбухторваюць іх да супраціўлення калектывізацыі

Заканамерным працягам гэтай паклёпніцкай кампаніі стаў судовы працэс па справе т. зв. Саюза вызвалення Беларусі (СВБ). Сёння нам вядома, што ніякага СВБ не існавала. Справа была сфальсіфікавана спецслужбамі. Органамі АДПУ БССР да адказнасці былі прыцягнуты сябра Прэзідыюму БАН С. Некрашэвіч, акадэмікі В. Ластоўскі, Я. Лёсік, навуковыя супрацоўнікі БАН А. Цвікевіч і У. Чаржынскі, прафесар БДУ А. Смоліч і іншыя вядомыя дзеячы навукі і культуры. 10 красавіка 1931 г. калегія АДПУ прызнала іх вінаватымі ў тым, што яны быццам бы здзяйснялі шкодніцтва на культурным, ідэалагічным кірунках сацыялістычнага будаўніцтва, праводзілі антысавецкую нацыяналістычную агітацыю з мэтай адарвання Беларусі ў этнаграфічных межах ад СССР і стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Пастановаю калегіі падсудныя высылаліся ў розныя гарады СССР тэрмінам на 5 гадоў, сярод іх толькі былы стыль-рэдактар газеты "Звязда" П. Жаўрыд быў прысуджаны да турэмнага зняволення на 5 гадоў.

Шляхам падману і бруднай фальсіфікацыі наменклатура здолела паўплываць на грамадскую думку. Тэмпы беларусізацыі ў войску значна запаволіліся. Звузілася сфера ўжывання беларускай мовы, бо яна лічылася апрацаванай нацдэмамі. Дарэчы, пастулат пра апрацоўку беларускай мовы нацдэмамі быў развіты ў кнізе "Навука на службе нацдэмаўскай кантррэвалюцыі" (1931 г), падрыхтаванай калектывам аўтараў Інстытута філасофіі БАН. Аўтары сцвярджалі наступнае:

"Стоячы на варце "скарынінскай" чысціні беларускай мовы, нацдэмы ажыццяўлялі яе, - так выражаўся Некрашэвіч, "апрацоўку" У чым жа заключалася гэтая "апрацоўка"? Яна вялася па наступных напрамках:

1) увядзенне ў сучасную беларускую мову архаізмаў усялякага роду; у большасці запазычаных з рэлігійных помнікаў сярэднявечча і гістарычных дакументаў той жа эпохі;

2) утварэнне новых слоў па прынцыпах пурызму - захавання "самабытнай" чысціні беларускай мовы і выгнання з яе элементаў інтэрнацыяналізму;

3) ахова беларускай мовы ад пранікнення ў яе савецізмаў; процідзеянне ўплыву на не развіццё пралетарыяту,

4) барацьба з рускімі элементамі ў беларускай мове і масімальная паланізацыя яе"

Улічваючы такое стаўленне да беларускай мовы, РВС БЕЛВА прапанаваў Прэзідыюму БАН стварыць Вайскова-тэрміналагічную камісію для перагляду беларускай вайсковай тэрміналогіі: У хуткім часе такая камісія была створана. Вынікам яе працы стала выданне ў 1933 г. новага слоўніка кішэннага фармату. Ва ўступе да слоўніка ўкладальнікі акрэслілі свае задачы - пазбавіцца ад "архаізмаў, паланізмаў што імкнуліся ўкараняць у армію нацдэмы, выходзячы з класавых буржуазна-рэстаўратарскіх тэндэнцый, сваім "Практычным беларускім вайсковым слоўнікам". У параўнанне са слоўнікам 1927 года новы слоўнік быў больш інтэграваны з расійскай мовай: "раздзел" у ім замяняўся на "ўзвод", "аддзел" - "атрадам", "вайсковы" -"ваенны" і г.д.

І ўсё ж такі для сталіністаў гэтага было недастанткова. Цкаванне праяў беларускага нацыянал-дэмакратызму ў грамадска-палітычным жыцці рэспублікі працягвалася. Найбольшую вядомасць напачатку 30-ых г. атрымала справа настаўніка Сцепура. Камуністы сцвярджалі, што нацдэмы нібыта прымушалі т. Сцепура абавязкова ўжываць беларускую мову ў сям'і. Па справе Сцепура ЦК УКП(б) вынес нават спецыяльную пастанову (!), у якой крытыкаваў правядзенне палітыкі беларусізацыі.

Канчаткова беларусізацыю ў войску падарваў сталінскі тэрор 1937-1938 гг. Прывядзём адзін прыклад. Так, 25 жніўня 1938 г. па абвінавачванні ў прыналежнасці да "нацыянальна-фашысцкай нацдэмаўскай арганізацыі" быў асуджаны да растрэлу камкор Іван Васілевіч. Прысуд быў выкананы ў той жа дзень. Камкор Васілевіч нарадзіўся ў 1895 г. у в. Падстарынь Івацэвіцкага р-на. У 1929-1932 гг. з'яўляўся начальнікам АБВШ. Да моманту арышту - 25 чэрвеня 1937 года - камандаваў 26-м стралковым корпусам на Далёкім Усходзе (гл. Ходцева Т. Один из ста пятидесяти четырёх // Заря - 1990, 23 окт.)

7 сакавіка 1938 г. ЦК Усе КП(б) і СНК СССР выдалі пастанову "Аб нацыянальных частках і фармаваннях РСЧА", згодна якой нацыянальныя часткі рэарганізоўваліся ў агульнасаюзныя. Рашэнне абгрунтоўвалася жаданнем павысіць баяздольнасць Чырвонай Арміі. На самой справе гэта быў доўгачаканы рэванш Сталіна за свае паражэнне на XII з'ездзе РКП(б).

Ужо ў гады Вялікай Айчыннай вайны генсек зноў вымушаны быў пагадзіцца на ўтварэнне нацчастак. Былі створаны літоўскія, латышскія: іншыя часткі. Беларускія так і не былі аднолены. На думку даследчыка В. Герасімава, гэта акалічнасць дазволіла нацыстам стварыць Беларускую Краёвую Абарону ў 1944 г. і тым самым прымусіць мясцовае насельніцтва змагацца пад штандарамі "трэцяга рэйха"...

***В. ПРЭЎРАЦКІ.***

**Фёдар Рудовіч**

# Давайце смяяцца па-беларуску

## Парасятам ці сабе?

- Алё, Давыдаўна? Прывітанне! Серафіма гэта, суседка твая!

Ну што, ездзіла ў горад. Алё? І што купіла? Сервелату можа ці рулетаў мясных набрала? Што, нічога не ўзяла? Дорага ўсё? Па чатыры ды па пяць тысяч за кіло? Фу, чорт, я думала за пуд? Во дзяруць, скажы? Ну прама жывадзёрам лупяць!

Дык ты чаго купіла. Давыдаўна? Адной крывянкі, ажно пяць кіло? Ну атаварылася. Як перад патопам! Парасятам ці сабе набрала? Што, сама будзеш уплятаць? А то ж: цярэбіцца-дык церабі, не ляскаць жа, як воўк зубамі. Як кажа Ксеня з Барсукоў, усёроўна не памрэм-дык счахнем! Калі нітраты з ядахімікатамі не даканаюць, дык радыяцыя ўкакошыць!...

Што-што, і селядцы, гаворыш, прадаваліся? Адборныя, адзін у адзін? Бо смаката, шчэ й лепш за сервелат. Дык пачастуй хоць селядцамі. За кампанію ўдваіх і ўмалоцім з бульбаю. Як некалі, у лепшыя часы!

Што? Не купіла й селядцоў? Цэны ашалелыя, гаворыш? Дык ты чаго ўзяла, Давыдаўна? Мойвы ды камсы? Пратухлай нейкай? Ох-вох, сабе ці парасятам прыстаралася? Ага, сама ўплятаць намерана? А то ж: воўна – не воўна, абы кішка поўна! Цярэбіцца – дык церабі! Не ляскаць жа, як воўк, зубамі!..

## Усё ёсць!

- Алё! Аддзел матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння? Ліцейны цэх турбуе. Скажыце, электраматоры паўтара кілаваты на паўтары тысячы абаротаў ёсць?

- А як жа ж! Канешне, ёсць! Вам з флянцам ці на лапах?

- З флянцам, калі ласка!

- Спазніліся! На лапах толькі засталіся.

- Шкада, не трэба. Лепш скажыце, вентылятары шостага нумару маеце?

- Пытаецеся!.. вядома, маем. Правага альбо левага вярчэння жадаеце?

- Правыя патрэбны!

- Правых няма. Левых – куры не дзяўбуць! Ну што, бераце?

- Ды не, дзякуем. Лепш скажыце: тэны вам завезлі?

- Трубчатыя электранагравальнікі вас цікаваць?

- Так-так!

- А як жа, канешне, завезллі. Вам простыя ці гнутыя патрэбны?

- Толькі простыя!

- Спахапіліся!.. Ужо цю-цю, як кажуць, на Варкуцю! Бярыце гнутыя. Пакуль ёсць. Магу выпісаць дваццаць штук, магу дваццаць пяць. Што? Таксама адмаўляецеся? Ну, ведаеце, вам не дагадзіць!

## Ядуць

На працу ў калгас "Шлях да ўздыму" малады заатэхнік Ірына Зюзь уладкавалася на самым пачатку лета. Якраз пачыналася нарыхтоўка кармоў, і на цэнтральнай сядзібе гаспадаркі шпаркімі тэмпамі вялася закладка сенажу з траў першага ўкосу. У бетанаваную траншэю ішло ўсё: асака і цімафееўка, крапіва і дзядоўнік, гума ад зношаных калёс і гнілы шчыкетнік.

- Каравул! Непрыкрытае шкодніцтва сярод беларга дня! - падняла лямант малады заатэхнік. – Не сянаж а смецце нейкае, ніякая карова яго нават і не панюхае!

- Ядуць! Ядуць! Самі на гэтым сенажы зубы з'елі, не першы год закладваем! - усміхнуліся ў адказ чырвонашчокія дзядзькі, працягваючы сваю справу.

"Загубяць усіх кароў, цялят, адны авечкі застануцца!" – цяжка ўздыхнула дзяўчына і моўчкі падалася ў кантору – з райцэнтра патрабавалі звесткі аб ходзе назапашвання кармоў.

Мінуў яшчэ тыдзень. Зачасцілі дажджы. Тут і пачалася ў гаспадарцы нарыхтоўка сена. Яго прасавалі ў цюкі і складвалі ў вялікія сцірты.

- Паплеснее! Папсуецца! Пагніе! – убачыўшы такое дзікунства, застагнала малады заатэхнік. – Ні караціну не застанецца, ні пратэіну! Якая, скажыце, скаціна будзе гэты гной есці!

- Ядуць! Ядуць! Не першы год цюкуем! – запэўнілі яе тыя ж самыя дзядзькі і мудра дадалі:

- На пажары, дзеўка, харомаў не размалёўваюць! Будзеш з мора надвор'я чакаць – зусім без кармоў застанешся!

Восенню ў калгасе спахапіліся, што мала сіласу. Рашылі закладваць бацвінне буракоў, скошанае тэхнікай. Але прамарудзілі. Калі выдаліся пагодлівыя дні, людзі рынуліся ўбіраць ураджай. У сіласныя ямы пайшло бацвінне, змешанае з пяском і пачарнеўшым лісцем.

- З глузду з'ехалі ці што? – пазелянела пад колер буракавіння малады заатэхнік. – Усіх кароў цялят зжываце са свету, адны авечкі застануцца. Тэрмінова спыніце работу!

- Нічога! Ферма не рэстаран, і каровам не да вінегрэтаў. Ядуць! – пачулася ў адказ.

... На згоне зімы, недзе перад самай вясной, па фермах гаспадаркі пракацілася эпідэмія кішэчных захворванняў. Прапала нейкая колькасць кароў, цялят. Адны авечкі ўцалелі!..

## Як яе п'юць?

Іван Зубрык – зусім не горкі выпівоха. І нават не п'яніца-адзіночка ці які там дробны алкаш. Карацей кажучы, пітвом з высокімі градусамі зусім не злоўжывае. Не дурны, словам, не бязвольны.

Але калі надарыцца магчымасць, калі пад настрой ды пры добрай закусі - пальнуць шклянку-другую "вогненнай вады" Зубрык ніяк не адмовіцца. І прасіць не трэба. Задзярэ ўгару нос і адным махам рукі перакуліўшы ў рот паўнюткую чарку гарэлкі, нейкі час наіграна смакуе гэты ўрачысты міг, затым зробіць кіслую міну і скептычна зазначыць:

- І як яе камуністы п'юць, га? Як яны яе жлукцяць, дрэнь гэткую?

Тады камуністы былі ля жыццёвага стырна на ўсіх узроўнях, верхаводзілі ўсімі справамі. Без чырвонай кніжкі з выявай кабінетнага мудраца Валодзькі Ульянава нельга было ані ў якія начальнікі прабіцца і нідзе нават сто грамаў не халяву не налівалі. Семдзесят гадоў яны заганялі ў апалу усіх, хто думаў і рабіў не так, як яны, ці па-іншаму кажучы, нармальна рабіў. Але прабег час, гістарычны вецер падзьмуў у іншыя ветразі, і вось ужо ўсемагутныя камуністы самі трапілі нечакана ў апалу. З нечай лёгкай рукі іх пачалі ўжо называць партакратамі.

Кульнуўшы ў блізкай кампаніі чарку якога-небудзь "зелля", Зубрык паЗвычцы скептычна пакруціць галавой, зморшчыць свой інтэлігентны твар і пафіласофску прабурчыць:

- І як яе партакраты п'юць, га? Як яны яе жлукцяць, смердзюху гэткую?..

Неўзабаве партакраты зусім ужо адышлі ў цень, нават смяяцца з іх надакучыла. У перадавую шарэнгу лёсам гісторыі вылучыліся дэмакраты – людзі свабоды, справядлівасці і парадку. Зубрык і тут не ўпусціў магчымасці прадоўжыць лёс свайго карэннага "тосту". Задзёршы галаву, адным махам перакуліць шклянку "гаючай вадакасці" і мудра зазначыць:

- І як яе гэтыя самыя, як іх.. а-а, "дзермакраты" п'юць, га? Як яны яе жлукцяць, горыч гэткую?

Між тым і "дзермакраты" не ўтрымаліся на зыбкай хвалі гісторыі. Пакіраваць ім так і не ўдалося, бо да ўлады паўсюдна прабіваліся больш хітрыя і нахабныя. З гэтай прычыны палітыка перастала ўжо многіх цікавіць, і ў моду ўвайшлі людзі высокага дастатку. Іх зэкаўскія стрыжкі і маналітныя, як бетон, фігуры бянтэжылі далёка не ўсіх. А людзі дробнага калібру накшталт Івана Зубрыка, былі трывала адціснуты на задворак навейшай гісторыі.

Панура закінуўшы ўгару галаву, Зубрык па звычцы выльє ў рот шклянку "Віліі" альбо "Белай вежы", і скрывіўшыся, быццам серада на пятніцу, мудра прабуркоча:

- І як яе гэтыя самыя, як іх ... а-а, б-бізнесмены п'юць, га? Як яны яе жлукцяць, атруту гэткую?

Эх-хе-хе!.. Яўна адстаў ад жыцця Іван Зубрык, неяк непрыкметна здаў ён свае інтэлектуальныя пазіцыі. Справа ў тым, што такую пошасць б-бізнесмены не п'юць. І не нюхаюць нават!

А што яны п'юць, нагарцаваўшыся на сваіх замежных легакавіках і чым закусваюць пры гэтым, Зубрыку, мабыць і ў сне не снілася! І не скора прысніцца, мабыць!..

# Крыжаванка "Адновім мову"

## *Перакласці на беларускую мову*

*Склаў Ігар Паўлоўскі*




**Па гарызанталях:**

2. Жаркое. 6. Укроп. 7. Чашка. 9. Вон (там). 10. Бокал. 11. Скатерть. 12. Лоханка (для памыяў). 13. Котёл (чыгунны). 15. Ёж. 18. Уксус. 20. Ручка (якой пішуць). 21. Орлёнок. 22. Ватрушка. 23. Слюна. 25. Угол. 28. Міф. 29. Колымага. 30. Розыск. 31. Яровые.

**Па вертыкалях:**

1.Пообжариться. 2. Зола. 3. Отвар. 4. Проказник. 5. Сношения. 7. Повар. 8. Магазин. 13. Стебель (травы). 14. Грач. 16. Жница. 17. Стебли кукурузы. 18. Кухня. 10. Поднос. 22. Кофе. 24. Посевы овса. 26. Плетень. 27. Крест. 28. Стена (з цэглы, камення).

*( Адказы можна праверыць на ст. 9.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас,
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч,
Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш,
Язэп Палубятка,
Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун,
Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік,
Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 6. 10. 2003 г.
Наклад 2200 асобнікаў. Замова № 2295.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
*Кошт у розніцу:* 175 руб. (у Менску - 185 руб.)